


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714




http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 11 (3070) Год LX | Беласток, 15 сакавіка 2015 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)








# ЯКІЯ ЛАЎРЭАТЫ

## — здольныя ці «прэфэраваныя»?

— Для мяне гэта быў інтэлектуальны выклік, — кажа **Бася Лук'янюк** з беластоцкай «чацвёркі». — Конкурс дазваляе лепш вывучыць беларускую мову. Навошта гэтыя веды, гэтая граматыка? Яны патрэбныя для мяне самой, — кажа дзяўчына. І дадае, што калі стане лаўрэаткай, адразу пазвоніць сваёй бабулі, якая жыве ў Бандарах.

У сям'і Бася толькі з бабуляй размаўляе па-беларуску. Сардэчная рэляцыя з бабуляй дазваляе ёй лічыць беларускую мову роднай. Бася — сапраўдная інтэлектуалка. Яна прыняла яшчэ ўдзел у прадметных конкурсах па польскай мове і па прыродзе. Вучоба для яе гэта не толькі балы і адзнакі, гэта чыстая прыемнасць. Падобна на справу глядзіць **Вераніка Кардзюкевіч** з праваслаўнай школы ў Беластоку. Вераніка першай напісала конкурсную працу:

— Адной з задач было напісаць пра легенду «Свіцязь», — заяўляе з іскрынкамі ў вачах. — Гэтая легенда для мяне вядомая і адначасова загадкавая. Часта пра яе думаю.

Таксама знаёмай паказалася задача паводле апавядання «Дамавікова ўдзячнасць».

— Я ўжо раней адкрыла прозвішча Міколы Гайдука, — кажа на прыгожай беларушчыне шасцікласніца, — ды сама прачытала шмат яго апавяданняў. Так звычайна, для самой сябе, каб падшліфаваць мову.

Вераніка прыняла ўдзел ажно ў пяці прадметных конкурсах: па прыродзе, гісторыі, польскай ды рускай мовах. А пабеларуску піша ўжо чарговы раз. Сёлета яна адзіная лаўрэатка ў сваёй школе па беларускай мове. Гэта гонар. Вераніка марыць, каб беларуская мова была роднай і жывой для маладых, каб гучала не толькі на ўроках у школе. Дзеля гэтага трэба чытаць беларускія кніжкі і размаўляць у сям'і, з сябрамі.

Праўда, такі патрыятычны падыход не з'яўляецца паўсюдным. **Аляксандра Жукоўская** з Бельска прыступіла да конкурсу, каб праверыць свае веды. Не ведае яшчэ ці гэтая мова будзе ёй патрэбнай у жыцці.

— Я толькі на ўроках гавару па-беларуску, — прызнаецца Оля.

Яна таксама прыняла ўдзел у прадметных конкурсах па прыродзе, польскай ды англійскай мовах. З гэтых усіх найбольш складаным паказаўся для яе конкурс па англійскай мове.

— Сучасныя вучні прымаюць адначасова ўдзел у многіх конкурсах, — паясняе настаўніца **Валянціна Бабулевіч** з бельскай «тройкі». — Проста такі трэнд.

Іншая справа, не кожны вучань здольны падрыхтавацца да конкурсу. Гэта вялікая праца, шмат дадатковых гадзін. Ёй самой удалося намовіць з шостага «а» класа ажно сем асоб, з якіх тры дайшлі да ваяводскага этапу. Прытым гэта невялікі ды інтэграцыйны клас.

— Каб выспеў поспех, трэба каб спрацавалі тры рэчы, — кажа настаўніца. — Спачатку трэба зматываваць вучня, разбудзіць яго цікавасць. Важна, каб дзіця ўмела працаваць, каб змагло вызубрыць граматыку, якой практычна няма ўжо на ўроках. Неабходная таксама падтрымка з боку бацькоў і атмасфера ў школе.

Ці залежыць дырэкцыі, каб такія конкурсы адбываліся? Калі гаварыць пра бельскую «тройку», тут ужо выпрацавалася традыцыя конкурсаў. Звычайная, трэцяя частка лаўрэатаў па беларускай мове якраз з гэтай школы. За гэтым праmаўляюць таксама фізічныя магчымасці — у «тройцы» найбольш навучэнцаў беларускай мовы. Аднак калі бліжэй прыглядзецца вынікам, за поспехамі вучняў стаяць прозвішчы настаўнікаў. Самая вялікая колькасць лаўрэатаў — чатыры асобы, выйшлі з-пад рукі настаўніцы Аліны Ваўранюк з беластоцкай «чацвёркі». Такі лік лаўрэатаў мае яшчэ Пачатковая школа № 3 у Гайнаўцы. Праўда, сёлетні выпуск прадметнага конкурсу па беларускай мове моцна ўсхваляваў асяроддзе настаўнікаў. У Падляшскай кураторыі з насцярожанасцю ўспрынялі «шматлікасць» конкурсантаў, якія перайшлі да ваяводскага этапу, ды ў сувязі з гэтай «шматлікасцю» паднялі планку. Пачаткова ў правілах конкурсу быў пададзены парог 80 працэнтаў, пасля змянілі яго на 82,5 працэнта. У выніку змены з 32 асоб засталося толькі 23 вучні. Бяда, што ў школы пайшла ўжо інфармацыя пра 32 асобы, а пасля праўкі многім настаўнікам трэба было тлумачыць «адкінутым» вучням што яны адкінутыя.

Для **Аліны Ваўранюк**, у якой пачаткова да ваяводскага конкурсу перайшло сем асоб, гэта быў кашмар:

— Я не ведала як гэта сказаць дзецям, — успамінае. — У гэтай справе пратэставала аб'яднанне АБ-БА. Нас шакіравала, калі ў кураторыі сталі нас павучаць «że są inne formy promocji tego języka». Мы не прымаем таксама аргументаў такога тыпу, што конкурсны «тэст» быў надта просты. Раней кураторыя зацвердзіла прапановы, чаму тады гэты «тэст» быў адпаведны. А можа гэта выглядае так, што не задача была лёгкай, а толькі нашыя вучні такія здольныя і працавітыя.

І дадала:

— Працую ў школе шмат гадоў, але пасля гэтага здарэння ў мяне прапала ахвота рыхтаваць дзяцей да ваяводскага конкурсу.

* * *

— Чаму кураторыя рашыла падняць планку для ўдзельнікаў прадметнага конкурсу па беларускай мове? — спыталі мы ў візітатар **Ганны Марэк** з Падляшскай кураторыі:

— Мэтай прадметнага конкурсу з'яўляецца вылучыць самых здольных вучняў. Удзельнікі беларускага конкурсу апынуліся сярод найбольш вылучаных (прэфэраваных). Ніякі іншы прадмет не мае так вялікай колькасці асоб заквліфікаваных да ваяводскага этапу. У сувязі з гэтым яны апынуліся б у больш спрыяльнай сітуацыі, чым усе ўдзельнікі іншых конкурсаў.

— Ну так, аднак званне лаўрэата гэта ганаровае званне?

— Няпраўда, — кажа Ганна Марэк, — хоць лаўрэаты па беларускай мове не маюць магчымасці на дадатковыя балы ў час экзаменаў, то яны могуць паступіць у гімназію па-за раёнам. Тады званне лаўрэата мае значэнне.

— А ці з іншых прадметаў была змена планкі і падняты парог?

— У выпадку конкурсаў для пачатковых школ не, — чуем у адказ. — Аднак такія змены былі наведзены ўжо для ўдзельнікаў конкурсу ў гімназіі. Дадам, што звычайна да ваяводскага этапу пераходзіць 5 працэнтаў удзельнікаў, а ў выпадку беларускай мовы пасля змены закваліфікаваных было 20 працэнтаў, таму яны ў найбольш спрыяльнай сітуацыі.

Пры цэлых гэтых «прэфэрэнцыях» трэба памятаць, аднак, што навучанне беларускай мове адбываецца толькі на прынцыпах добраахвотнасці. Многія настаўнікі, каб затрымаць вучняў, прыдумваюць ім дадатковыя заняткі і атракцыёны. Важным штуршком тут з'яўляецца і сам удзел у прадметным конкурсе. Гэта ж прэстыж і гонар. Прытым удзельнікі беларускіх конкурсаў перамагаюць «без ніякіх прэфэрэнцыяў» у іншых прадметах, часам як нашыя героі ў трох або і больш пад рад. У беларускіх конкурсах прымае таксама ўдзел найбольшая колькасць вучняў.

— У нас прыступіла да конкурсу аж палова ўсіх шасцікласнікаў і пяцікласнікаў, — кажа настаўніца **Валянціна Андрасюк** з Чыжоў. — Вучні звычайна хочуць сябе праверыць і падтрымаць ідэю конкурсу. Такая ў нас матывацыя.

Вядомыя таксама ўжо вынікі ваяводскага конкурсу. З ліку 23 удзельнікаў ажно 22 сталі лаўрэатамі. Вось іх прозвішчы: Марцін Алексяюк і Ізабела Карчэўская з ПШ у Чыжах, Клаўдзія Чыквін, Наталля Грыцюк, Іаанна Нікіцюк, Эмілія Амеліяновіч, Эмілія Раманчук, Аляксандра Пэткоф, Аляксандра Жукоўская з бельскай «тройкі», Зофія Конюх, Анна Рута Карнілюк, Барбара Лук'янюк, Наталля Савіцкая з ПШ № 4 у Беластоку, Вераніка Кардзюкевіч з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Кінга Куптэль, Дамініка Мялешка, Барбара Мішчук, Малгажата Сіманюк з ПШ № 3 у Гайнаўцы, Анна Радзівончык з КШ у Нараўцы, Аляксандра Рагоза з КШ у Орлі, Наталля Саўчук з ПШ № 6 у Гайнаўцы.

❖ Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК





# Чарговая трагедыя

Тое, што расійская ўлада напрамую або ўскосна, свядома ці несвядома, жадаючы гэтага або не, але нейкім чынам усё ж мае дачыненне да гібелі апазіцыйнага палітыка Барыса Нямцова, дапускае большасць расіян. Дапускаюць гэта не толькі апазіцыянеры або людзі, якія раздзяляюць апазіцыйныя погляды. Дапускаюць гэта і тыя, хто цалкам падзяляе погляды і метады дзеяння самой улады. У тым ліку і метады жорсткія ды радыкальныя, якімі гэтая ўлада карыстаецца ўжо даўно.

А вось каб такая трагедыя здарылася з кім-небудзь з верхняга эшалона самой расійскай улады, то ніхто — ні прыхільнікі ўлады, ні яе апаненты — ніколі б не западозрылі ў дачыненні да гэтага ні самога Барыса Нямцова, ні нікога з яго паплечнікаў. Не западозрылі б іх вінаватымі ў такой трагедыі ні напрамую, ні ўскосна. Хутчэй за ўсё западозрылі б зноў уладу, якая ўстроіла чарговыя бандыцкія разборкі. Вось у тым і ёсць тая самая галоўная розніца паміж уладай і апазіцыяй сённяшняй Расіі. Зрэшты, не толькі Расіі. Але зараз размова акурат пра яе. Пра тое, што расіяне ўпэўненыя, што іх улада здольная на ўсё.

Практычна ніхто не сумняваецца ў тым, што расійская ўлада можа зрабіць подласці ў прынцыпе. Зрабіла яна ці не такое гэтым разам, ці якім іншым разам, гэта пытанне дзясятае. І не такое ўжо прынцыповае. І абсалютна не важнае. Галоўнае, што калі яна захоча, гэта зрабіць можа і нікога пытаць не стане, нікога баяцца не будзе, ні з чыім меркаваннем лічыцца не захоча і да маральна-этычных прынцыпаў прыслухоўвацца не збіраецца. Тым больш не збіраецца прыслухоўвацца да голасу невядома адкуль узніклай вольнай грамадскасці, ці нейкай там ліберальнай апазіцыі.

І гэта ні ў каго не выклікае здзіўлення, бо людзі хутка да ўсяго прывыкаюць. І да сённяшняй палітычнай расійскай мазаікі таксама ўжо прывыклі. А выглядае яна хоць на першы погляд вельмі пястрата, але ж даволі аднабока і жудасна. Там дамінуюць так і не раскрытыя справы гібелі шэрагу журналістаў і праваабаронцаў, гучныя судовыя працэсы па ўдзельніках дазволенай масавай акцыі на Балотнай плошчы, турэмныя пакуты ўкраінскай лётчыцы Надзеі Саўчанкі, маланкавы захоп Крыма, міжнародныя санкцыі, антысанкцыі, ядзерная рыторыка думскіх парламентарыяў, вайна ў Грузіі, вайна на паўднёвым усходзе Украіны, антымайдан з яго заклікамі помсты і расправы, тэлеістэрыя з цкаваннем нейкай унутранай пятай калоны і нейкіх здраднікаў нацыянальных інтарэсаў, без удакладнення, якія яны тыя нацыянальныя інтарэсы ёсць насамрэч...

У гэтым палітычным калейдаскопе трагедыя з апазіцыйным палітыкам выглядае не толькі працягам прадказальным, але і лагічным. Нешта падобнае мусіла стацца. І мусіць рабіцца з адпаведнай перыядычнасцю. А што канкрэтна, гэта ўжо дробязі. І ўжо не важна для ўлады, на карысць ці на шкоду існаму рэжыму яно пойдзе. Як быццам бы ўсё нароблenae ёй раней разглядалася з гэтай пазіцыі карысці або шкоды ў традыцыйным для цывілізаваных краін разуменні. У тым і парадокс расійскай рэчаіснасці. Дарэчы, не адзіны.

Найвялікшы парадокс яшчэ і ў тым, што практычна ўсе расіяне будуць пільна сачыць за расследаваннем справы пра забойства Барыса Нямцова, але ўсе яны ўжо цяпер добра ведаюць, што ніхто з іх не паверыць у версію следства. Нават, калі гэтая версія сапраўды была б праўдзівай, то і тады не паверылі б. Расіяне не вераць сваёй уладзе. Нават тыя, якія тую ўладу падтрымліваюць. Падтрымліваць гатовыя, але вераць не, бо добра ведаюць сутнасць сваёй улады. Добра ведаюць, што нават калі праўда будзе на карысць уладзе, то і тады яна яе не скажа. Бо да добрага людзі хутка прывыкаюць і пачуўшы праўду адзін раз, могуць захацець яе чуць заўсёды.

Таму версіі забойства апазіцыйнага палітыка застануцца такімі ж, якімі ёсць цяпер. І кожны будзе прытрымлівацца сваёй. Кожны будзе верыць у тую, якая яму больш даспадобы. Пакуль не здарыцца чарговая трагедыя, якія там здараюцца са стабільнай перыядычнасцю. Не першая, і хутчэй за ўсё не апошняя. Зноў жа, такая ж прадказальная і такая ж лагічная. І такая ж жудасная.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Аб чым ведаюць краты?

Найбольш кратоў рые ў прыгранічных раёнах, аб чым інфармую як аб цікавінцы прыроды, а не танную сенсацыйку. Цікава, што найбольш напружаная краіная работа мае месца на ўсходняй ускраіне Еўропы, паўз так званай шэнгенскай лініі. Вызначае яна, казаўшы найпрасцей, зусім не простую лінію паміж краінамі, якія не залежаць ад Расеі, а тымі, якія яшчэ не могуць вызваліцца ад яе ўплыву. З'яўляюцца імі Беларусь і Украіна. Прытым незалежныя краіны адмянілі дэ-факта межы паміж імі, і, такім чынам, таксама патрэбу мець візу, якая давала б магчымасць іхнім грамадзянам свабодна перамяшчацца па Заходняй Еўропе. Пазбаўлены такой свабоды грамадзяне краін, якія залежаць ад Расіі. Без візы ў лепшым выпадку яны могуць пасядзець у... арышце. Вядома, калі яны злоўлены ў нелегальным перасячэнні шэнгенскай мяжы.

З гэтага відаць, што асаблівая дзейнасць кратоў на лініі падзелу Еўропы на тую незалежную і залежную ад Расіі, з'яўляецца палітычна матываванай. Толькі не гэтае пытанне найбольш цікавіла аднаго даследчыка, які так доўга запускаў у кратовыя курганчыкі малую камерку, каб вызначыць ступень і глыбіню падземных пераходаў, і, нарэшце, выявіў, што асноўны кірунак згодны з вярчэннем Зямлі, гэта значыць з усходу на захад. Цікава, што гэты прынцып таксама ўключае ў сябе міграцыю людзей. Вядома, гэта вялікае спрашчэнне, таму што, хоць дэмаграфічныя лішак кітайцаў адліваецца ў адпаведнасці з вярчэннем Зямлі да заходняй часткі зямнога шара, то ўжо афрыканцы, што паслядоўна прасочваюцца на поўдзень Еўропы, робяць гэта ў адпаведнасці з паўночна-заходне-паўднёвым азімутам. Гэтыя тонкія адрозненні лёгка захапіць на паверхні зямлі, у святле, так бы мовіць, сонечнага дня. Аднак, у выпадку падземных калідораў без компаса ніякіх напрамкаў не ўдасца вызначыць. Затое лёгка страціць арыентацыю, заблукацца без надзеі, што дзесьці ёсць адтуль выхад. Тут дазвольце мне трохі адцягнуцца. Гэта анекдатычная прытча пра чалавека, які, уцякаючы ад ворагаў, запусціўся ў доўгі чыгуначны тунэль, але праз некаторы час, убачыўшы святло міргаючае ўдалечыні, сумеўся, таму што не быў упэўнены, што яно паказвае — ці выхад з тунэля, ці можа фары над'язджаючага цягніка што імчыць насупраць. Так сутыкнуўся з невырашальнай і, такім чынам, трагікамічнай дылемай: ратавацца ўцёкамі назад, ці ўцякаць наперад?

Пэўна, з падобнай дылемай не прыйшлося сутыкнуцца 39-гадоваму расіяніну, якога беларускія памежнікі выцягнулі з падземнага тунэля літаральна за вушы. У той жа час гэта сапраўдная, але і анекдатычная падзея. Гэта адбылося ў мінулым годзе ў памежнай зоне паміж мясцовасцямі Орля ў Польшчы і Агароднікі на Брэсчыне. Аказалася, што злоўлены расіянін, які спачатку прыкідваўся глухім і нямым, а пасля асобай без грамадзянства, то англамоўным прыдуркам, але ж яго выдаў рускі акцэнт, уручную зрабіў падкоп з... Польшчы ў Беларусь. Ён меў з сабою ежу, цёплую вопратку, 7 злотых і 1 еўра. Але не было ў яго ніякіх дакументаў. Таксама і компаса. Толькі пасля сутак праведзеных у арышце ўрэшце вызначыў правільны кірунак і загаварыў па-руску, тлумачачы, што ён абраў шлях тунэльнага падкопу, таму што сапраўды спяшаўся дахаты!

Асноўнай бядой для ўсіх бежанцаў з краін, якія залежаць ад Расіі і з самой Расіі, з'яўляецца перасячэнне шэнгенскай мяжы. Пацвярджаюць гэта словы вышэйзгаданага расіяніна, што найхутчэй яе можна перасячы падземным тунэлем. Некалькі месяцаў таму такі ж шлях выбралі два грузіны, якія заняліся будаўніцтвам падкопу побач з беларуска-польскай мяжой. На жаль, іх выкалупалі з зямлі на імгненне перад не перасячэннем беларускія ахоўнікі мяжы. Іншым прыкладам з'яўляецца нядаўна выяўлены 700-метровы тунэль на мяжы паміж Славакіяй і Украінай. Быў ён абсталяваны прафесійнымі пуцямі і падыходным чыгуначным транспартным сродкам. Аб многіх да гэтага часу нераскрытых ведаюць толькі краты. З адным з іх, які капаецца ў маім агародзе так, быццам хацеў мне штосьці сказаць такім чынам, я павінен быў бы ўвайсці ў больш блізкія адносіны.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Дарадчык

Прэзідэнт Тадэвуш Трускаляскі пасля перамогі на выбарах восенню мінулага года, на гэты раз не прызначыў адным са сваіх наменнікаў прадстаўніка асяроддзя меншасцей (з акцэнтам на праваслаўнае), як гэта было раней, калі ён быў прэзідэнтам з памазаннем Грамадзянскай платформы, а не як цяпер са свайго камітэта і толькі з падтрымкай ГП. Тады ён быў абавязаны прызначыць наменніка, у адпаведнасці з дамовай, якую Платформа заключыла з Форумам меншасці Падляшша, значыць, з асяроддзем праваслаўных дзеячаў, якія на апошніх выбарах пацярпелі паражэнне, уводзячы ў беластоцкую гарадскую раду толькі аднаго раднага — Славаміра Назарука. Аднак прэзідэнт нядаўна прызначыў дарадчыка па нацыянальных меншасцях і грамадскіх справах. Стаў ім Марк Масальскі. На мінулагодніх мясцовых выбарах гэты шматгадовы сябра Брацтва праваслаўнай моладзі, узнагароджаны ордэнам святой Марыі Магдаліны II і III ступені, быў кандыдатам у гарадскія радныя са спіска ГП. Занесены быў на спісак у адной з акруг на другім месцы. У гарадскую раду не ўвайшоў. Да гэтага часу ён быў дырэктарам Праваслаўнага дабрачыннага цэнтра «Элеос», у 1998-2010 гадах быў беластоцкім радным і радным ваяводскага падляшскага сеймікa (быў віцэ-старшынёй сеймікa). У 2008 годзе адначасова быў старшынёй Форуму меншасцей Падляшша і, засядаўшы ў гарадской радзе, стаў упаўнаважаным па грамадскіх і рэлігійных справах ды нацыянальных і рэлігійных меншасцей тадышняга падляшскага маршалка Яраслава Дваржанскага, які зараз таксама з'яўляецца адным з дарадчыкаў прэзідэнта Трускаляскага.

Я спытаўся ў прэзідэнта Трускаляскага, чаго ён чакае ад новага штатнага дарадчыка:

— Да гэтай пары сем з паловай гадоў адным з маіх наменнікаў быў Аляксандр Сасна, які прадстаўляў меншасці. Пасля выбараў так здарылася, што наменніка па меншасцях няма (Аляксандр Сасна стаў дэпутатам Сейма — М. Х.) і мне інакш прыйшлося скласці штат наменнікаў прэзідэнта. Я размаўляў з асяроддзем меншасцей (прэзідэнт не пералічыў з кім, але гаворка тут толькі аб асяроддзі звязаным з ФМП — М. Х.) аб прызначэнні дарадчыка. Марк Масальскі мае вялікі працоўны вопыт у якасці былога ўжо дырэктара «Элеоса», былога, бо, стаўшы маім дарадчыкам, сышоў у адстаўку, каб пазбегнуць канфлікту інтарэсаў. Мае ён шырокі вопыт у грамадскіх пытаннях і высокую сацыяльную ўражлівасць. І гэта важнае, таму што ён мой дарадчык не толькі па пытаннях меншасцей, але ў больш шырокім сэнсе грамадскіх справах. Ёсць шмат крыніц канфліктаў у нашым горадзе і праблем, таму неабходна апераджальная дзеянні.

Сам Марк Масальскі пасля яго прызначэння, разам з іншымі актывістамі ФМП (цяперашнім старшынёй Яраславам Вэрдоні, былым сябрам гарадской рады Сцяпанам Нікіцюком і радным Славамірам Назаруком) склікаў у сядзібе Цэнтра праваслаўнай культуры прэс-канферэнцыю, на якую «Ніва» не была запрашана, а даведалася пра гэта выпадкова. Прамоўчана было пытанне, чаму не быў абраны праваслаўны віцэ-прэзідэнт, хвалілі затое існуючае супрацоўніцтва з прэзідэнтам Трускаляскім. Марк Масальскі падчас прэс-канферэнцыі падкрэсліў, што яго галоўнай задачай будзе пасрэдніцтва ў супрацоўніцтве паміж самаўрадам і меншасцямі:

— Мне залежыць на тым, каб у горадзе была добрая атмасфера для развіцця няўрадавых арганізацый, якія засяроджваюць меншасці, так што аказваў бы дапамогу ў атрыманні сродкаў з гарадскога бюджэту для розных мерапрыемстваў, праз інфармацыю і нават праз майстар-класы па напісанні заяў (як можна было зразумець, асабліва для новых, маладых кадраў праваслаўных брацтваў — М. Х.). Залежыць мне таксама на сустрэчах Тадэвуша Трускаляскага з арганізацыямі нацыянальных меншасцей, каб маглі яны выказваць свае погляды аб тым, як можна падтрымаць іх дзейнасць, для таго, каб былі больш прыкметнымі ў горадзе. Я таксама буду старацца бягуча рэагаваць на сітуацыі, якія іх датычацца, каб усе маглі адчуваць сябе добра ў беластоцкім асяроддзі.

Паабяцаў таксама падтрымаць беларускую асвету, пералічваючы дзейнасць Згуртавання «АБ-БА», таксама намякнуў на адкрыццё ў Беластоку цэнтра беларускай культуры. Дзеячы ФМП не хвалілі свайго задавальнення, што цяпер — як правіла, адсутнічаючы да гэтага часу — прадстаўнік прэзідэнта будзе ўдзельнічаць у беларускіх мерапрыемствах (тут згадалі праекты БГКТ) і не будуць прападаць праекты звязаныя з меншаснымі імпрэзамі (пералічана была адсутнасць субсідый у гэтым годзе на фестываль сербскай культуры «Відовдан»).

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Палажэнні Закона аб нацыянальных і этнічных меншасцях ды рэгіянальнай мове не мёртвае права, але не значыць, што дзякуючы яму ўдалося вырашыць усе праблемы. Не атрымалася стварыць мадэлі культурнай установы меншасцей і іх палітычнага прадстаўніцтва. Не атрымалася да канца таксама стварыць рэальных магчымасцей функцыянавання моў нацыянальных меншасцей у публічнай прасторы, і варта пахіліцца над распрацоўкай спраўнай адукацыі грамадскасці аб нацыянальных і этнічных меншасцях у Польшчы — пералічваў падчас урачыстай сустрэчы парламенцкай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей Мірон Сыч — яе старшыня. Як мы ўжо згадвалі ў папярэднім нумары «Нівы», сустрэчу з удзелам членаў Супольнай камісіі ўрада і нацыянальных ды этнічных меншасцей і прадстаўнікоў меншасных арганізацый сарганізаваў ён з нагоды дзясятай гадавіны прыняцця Сеймам закона аб меншасцях. Сярод гасцей былі сааўтары гэтага дакумента і, між іншым, прадстаўнікі амбасады ЗША ў Польшчы.

Закон, вядомы як «малая канстытуцыя меншасцей», з'яўляецца вынікам працы парламенцкай камісіі, створанай Сеймам 31 ліпеня 1989 года. Галоўным ініцыятарам распрацоўкі закона быў Яцэк Курань. Уступны праект, аўтарства Хельсінскага фонду па правах чалавека, падрыхтаваны быў на зломе 1993 і 1994 гг. Потым пераняла яго, створаная ў рамках парламенцкай камісіі, падкамісія па справах нацыянальных меншасцей. Яе працы працягваліся аж два тэрміны паўнамоцтваў Сейма (II і III скліканняў). Дэпутатам-дакладчыкам быў падляшскі дэпутат Яўген Чыквін. Першапачатковы праект закона быў перададзены парламенту 16 верасня 1998 г., чарговыя — 11 студзеня 2002 г. і 5 лістапада 2004 г. Канчаткова закон ад 6 студзеня 2005 г. уступіў у сілу 1 мая 2005 года.



Выступае Лех Ніякоўскі

# ЮБІЛЕЙ ЗАКОНА (ч. 2)

## Гэта не кошык

У час юбілейнага пасяджэння старшыня парламенцкай камісіі **Мірон Сыч** падкрэсліў:

— Сённяшні дыялог і гатоўнасць да паразуменняў з'яўляюцца ў значнай ступені вынікам уступлення ў сілу гэтага Закона (...). Прыняцце закона перанесла дэбаты на новы ўзровень.

Спаслаўся на заслугі (як пасля і іншыя прамоўцы), якія для з'яўлення закона заклаў даўні старшыня парламенцкай камісіі меншасцей дэпутат Яцэк Курань, які памёр год да ўступлення закона ў сілу:

— Без яго ўдзелу не ўзнік бы падмурак, на якім вырас гэты юрыдычны гмах.

Пастаянны дарадчык камісіі д-р **Лех Ніякоўскі**, па адукацыі філосаф і сацыёлаг, прытым актыўны левы дзеяч (звязаны з СЛД), успомніў гісторыю ўзнікнення закона, пры якім таксама працаваў:

— Гэта гісторыя перамен у Рэчы Паспалітай. Ужо ў пастулатах «Салідарнасці» былі згаданы нацыянальныя і этнічныя меншасці, правы меншасцей разглядаліся як шырока разуметыя правы грамадзяніна і чалавека і разам са зменамі ў Польшчы прынята рашэнне прыступіць да дзеянняў.

Першапачаткова яны засяродзіліся на ўнясенні змен у Канстытуцыю. Нагадаў, што ў апошні час у грамадскіх дэбатах чуюцца галасы аб неабходнасці ўнесці ў закон чарговую этнічную групу: сілезцаў (і прызнаць іх эталект за рэгіянальную мову) ды наступную нацыянальную меншасць — грэкаў.

Уступны праект, які стаў асновай для друку парламенцкага законапраекта, быў падрыхтаваны па просьбе Яцка Кураня групай Хельсінскага фонду па правах чалавека, якую складалі праф. Анджэй Жэплінскі (цяпер старшыня Канстытуцыйнага суда), прэзідэнт Фонду прафесар Марэк Навіцкі і прафесар Збігнеў Голда. У яе працах прынялі ўдзел палітолаг праф. **Гжэгаж Януш** з Універсітэта Марыі Складоўскай-Кюры ў Любліне, спецыяліст па правах меншасцей, якія падчас гадавіннага пасяджэння камісіі адзначыў:

— Сёння (пасля ратыфікацыі Польшчай у 2009 годзе Еўрапейскай хартыі рэгіянальных і меншасных моў — М. Х.) кожная абшчына, якая хоча атрымаць фінансавую дапамогу дзяржавы, стараецца атрымаць прылічэнне да катэгорыі ахоўваных законам супольнасцей або ў якасці этнічнай меншасці, або супольнасці рэгіянальнай мовы, таму што такія законныя магчымасці з'явіліся разам з ратыфікацыяй хартыі аб рэгіянальнай мове. Гэта не лепшае рашэнне, таму што неўзабаве можа аказацца, што ў выпадку Польшчы будзем мець больш меншасцей пералічаных у Законе, чым ён у змозе іх абараніць. Ён стане свайго роду кошыкам, у які кожнае патрабаванне ў галіне абароны можа быць змешчана. У нейкі момант, калі б хацець прыняць прэтэнзію кожнай групы, стане законам абараняючым усіх, а калі абараняецца ўсіх, сапраўды не абаронены ніхто.

Былы дэпутат **Ежы Штэліга** (у 1993-2005 гг. пасол Сейма ад СЛД з Апольскай акругі), намеснік старшыні парламенцкай камісіі па меншасцях чацвёртага склікання (2001-2005) звярнуўся з заклікам:

— Дай вам Бог, і хай Яцэк дапаможа вам, каб вы змаглі спыніць тэндэнцыі да маніпуляцыі, рэгулявання гэтага закона. З'яўляецца ён мерай вялікага кампрамісу, які пачаўся ў працах над прэамбулай Канстытуцыі. Рабіце ўсё, каб палепшыць жыццё меншасцей, але ёсць для гэтага розныя прававыя дакументы, не крануйце гэтага закона. Ён стварыў пазітыўны погляд аб меншасцях.

## Легкадумная жанглёрка

Падчас адкрытай дыскусіі віцэ-старшыня Супольнай камісіі з боку меншасцей **Рафал Бартэк** (нямецкая меншасць) пераконваў:

— Галоўнай задачай закона з'яўляецца не дапусціць асіміляцыі, каб меншасці маглі захоўваць сваю культурную самабытнасць, мову. У гэтым кантэксце трэба спытацца ў сябе, ці дзяржава робіць усё для гэтага, каб супрацьдзеянне адбывалася. І тут адказ неадназначны. Запісы, напрыклад, Хартыі рэгіянальных або меншасных моў кажуць не так аб тым, што ёсць закон, якім меншасці могуць пакарыстацца, але аб тым, што дзяржава ёсць актыўная ў гэтым абсягу, што яна прымае меры па адукацыі нацыянальных меншасцей, але перш за ўсё большасці. Прымае меры дзеля прасоўвання правоў меншасцей, каб яны ўспрымаліся як багацце рэгіёна, краіны. У сувязі з гэтым многае яшчэ трэба будзе зрабіць, а заканадаўства ў гэтым плане ёсць. Не хапае маніторынгу чаму меншасці не могуць ажыццяўляць свае правы.

**Рыгор Купрыяновіч** (украінская меншасць):

— У вялікай ступені трэба шукаць кампраміс, пахіліцца над тым, што кажа меншасны бок, а не проста прадстаўнікамі ўрада адзначыць, што яны прымаюць да ведама. Важныя не толькі прававыя нормы, але іх ажыццяўленне, добрая воля з боку дзяржаўных устаноў.

**Яўген Вапа**, старшыня Беларускага саюза ў РП, удзельнік прац па падрыхтоўцы дакумента аб правах нацыянальных меншасцей у Польшчы яшчэ ў канцы 1980-х гадоў у камісіі па справах меншасцей пад кіраўніцтвам Яцка Кураня першапачаткова пры Леху Валэнсе, а пазней пры Грамадзянскім парламенцкім клубе:

— У канцы 80-х гадоў нашай мэтай было адысці ад ролі дзяржавы і яго чыноўнікаў, якія дзейнічалі ў якасці дрэсіроўшчыка ў адносінах да нацыянальных меншасцей. Тыя адносіны мелі быць партнёрскімі. Часам мне здаецца, што аб такой свабодзе ў прасторы дзеяння забываемся.

Змены ў закон аб меншасцях, унесеныя ў мінулым годзе (запіс аб грамадскай інтэграцыі — М. Х.), калі ўжо працягваліся працы над цэласнай навелізацыяй закона, назваў палітычным актам, які стварыў небяспечны прэцэдэнт.

— Гэтая дэталь змяняе канцэпцыю прэамбулы Канстытуцыі: «Мы, грамадзяне...». На нас, грамадзянах, ляжаць таксама абавязацельствы ў адносінах да нашай краіны. Нас не трэба інтэграваць дадаткова. Гэта ставіць нас не ў якасці партнёраў, але абарыгенаў. Як меншасці, мы выступалі супраць гэтаму запісу, а вы — дэпутаты — яго прынялі.

**Анджэй Патоцкі**, дэпутат у 1991-2001 гадах ад Дэмакратычнай уніі, а пасля Уніі свабоды, віцэ-старшыня Еўрапейскай дэмакратычнай партыі, сябра Яцка Кураня:

— Я сумняваюся, ці Яцэк Курань быў бы задаволены тым, як гэты закон рэалізуецца і да якіх змен прывёў у грамадстве. Таму, што для яго і для іншых асоб, якія ўдзельнічалі ў дэмакратычных пераўтварэннях, найбольш важным было стварэнне падстаў адкрытага грамадства. Залежала яму, перш за ўсё, на ліквідацыі падзелу на большасць і меншасці, а гэты спосаб мыслення захоўваецца і па сённяшні дзень (...). Выклікала б пярэчанне Кураня гэтае легкадумнае жангліраванне паняццямі інтэграцыі, асіміляцыі. Легкадумнае, таму што нязгоднае з Канстытуцыяй.

Ён назваў гэта дзеяннямі, якія стыгматызуюць і выштурхваюць меншасці па-за абочыну, а нават дыскрымінуюць. Дадаў:

— Пад дзеяннем гэтага закона стварылі ромскія класы ў пачатковых школах у паўднёвай Польшчы, існуе яшчэ адсутнасць выразнай дзяржаўнай палітыкі ў барацьбе з мовай нянавісці, празмерная талерантнасць да выкарыстання этнічных спрэчак для дасягнення сваіх палітычных мэт і прымітыўныя экстрэмісцкія паводзіны, якія не змяшчаюцца ў ідыёме дэмакратычнай дзяржавы. Пад дзеяннем гэтага закона таксама абавязваюць механізмы, з дапамогай якіх дзяржава з'яўляецца дабрадзеем, які паводле свайго меркавання, размяркоўвае грошы меншасцям на розныя гранты, а не дазваляе ім увесці свае ўласныя механізмы, ані не дапускае арганізацый нацыянальных меншасцей да ацэнак спосабаў выдаткавання грошай. Пераадоленне гэтых механізмаў з'яўляецца асноўнай задачай камісіі.

Намеснік міністра адміністрацыі і лічбавізацыі **Станіслаў Гускоўскі** адказаў, між іншым, на крытыку палажэнняў закона аб «грамадскай інтэграцыі»:

— Гэтая інтэграцыя разумеецца не як асіміляцыя, а як падтрымка, дапамога, выраўноўванне шанцаў.

Неўзабаве пасля сустрэчы камісіі адзін з яе віцэ-старшынь, дэпутат **Яўген Чыквін** прызнаўся ў размове з Радыё Рацыя і «Нівай»:

— Беларуская меншасць, на жаль, не выкарыстоўвае ўсіх магчымасцей, якія прадстаўляюцца ў адпаведнасці з палажэннямі закона. Але гэта наша праблема, цяжка мець тут прэтэнзіі да закона.

Удзельнікі сустрэчы, якія ўпарта былі на ёй да канца, зрабілі калектыўны здымак, а старшыня Сыч уручыў ім дыпломы-падзякі за працу пры падрыхтоўцы закона.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

## Памятка дзіцячых гадоў — педыкулёз

Гады плывуць, чалавек становіцца штораз старэйшым, штораз больш далёкімі становяцца ўспаміны пасляваеннага дзяцінства. Шмат тадышніх з'яў беззваротна адышло ў нябыт. Няма ўжо на практыцы біялагічных сірот, якіх выхоўвалі сваякі. Сённяшняе сацыяльнае сіроцтва — гэта зусім штосьці іншае. Ніхто ўжо не дае дзецям у школе рыбінага тлушчу, самі дзеці таксама не маюць дзяцінства поўнага шматлікіх аднагодкаў, супольных гульняў на паветры летам і зімой, ці самаробных цацак. Ніхто сёння не траціць жыцця і здароўя па прычыне боеприпасаў, што засталіся пасля фронту. Ніхто не апаражняе клаачных ям пры дапамозе нямецкага шлема прымацаванага да палкі. Зніклі харчовыя картачкі, у вёсках няма ўжо краўчых, якія адзявалі дзяцей і іх маці. Многіх рэчаў ужо няма. Але адна сарамлівая памятка ад пасляваеннага перыяду засталася і далей добра трымаецца — вашывасць (педыкулёз).

Праблема тычыцца як вясковых, так і гарадскіх дзяцей. Ведаюць аб яе лекары, фармацэўты, гігіеністкі, настаўніцы. Ведаюць таксама і бацькі вашывых дзяцей, толькі нічога не робяць, каб знішчыць паразітаў. Быццам бы не помнілі, што вошы ў валасах, гэта не рэўматызм у касцях. Гэты апошні можна сабе мець, бо ён нікому іншаму не пагражае, але вошы — на жаль — вандруюць з адной дзіцячай галоўкі на другую.

Арганізаванае змаганне з педыкулёзам на практыцы немагчымае. Сёння ў кожнага свае правы і прывілеі, асабліва к паталогіі, і практычна нікога да змагання з вошамі ў валасах прымусіць нельга. Усё залежыць ад свядомасці і добрай волі пакутуючых ад педыкулёзу, а такіх у нас не хапае. Пакуль аптэкі прадаюць па некалькі ўпаковак інсектацыднага шампуню ў дзень, можа варта — замест забаўляцца ў магутную дзяржаву — накіраваць увагу правіцеляў на гэтую сарамлівую праблему. Ці ж і гэтай справы нельга вырашыць у нашай краіне? **М. Ц.**

## Выбары солтысаў

У лютым і сакавіку гэтага года вядзецца кампанія выбару солтысаў у Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета. У гміне 23 салэцтвы. У лютым выбары адбыліся ў 13 салэцтвах і ў дзевяці з іх солтысы засталіся тыя самыя, што былі дагэтуль: у Баб'яй Гары — Пётр Зубрыцкі, у Гушчэвіне — Алімпія Сачко, у Лешуках — Галена Рэент, у Міклашэве — Павел Трусевіч, у Новым Ляўкове — Ян Целушэцкі, у Нараўцы — Валянціна Пацэвіч, у Падляўкове — Віталь Сухадола, у Старым Ляўкове — Яўген Бандарук і ў Старым Масеве — Аліна Філіновіч. Па двух кандыдатаў было ў Гушчэвіне і ў Новым Ляўкове.

У лютым новыя солтысы былі выбраны ў Заблотчыне — Павел Каліноўскі, у Плянце — Аляксандр Здаnoўскі, у Семяноўцы — Мікалай Кардаш і ў Тарнаполі — Уршуля Гайдук. У кожным з гэтых салэцтваў было па двух кандыдатаў. У Плянце не захацеў далей быць солтысам Аляксей Врублеўскі.

Падчас вясковых сходаў выбіралі таксама салэцкія рады. У сходах удзельнічала даволі вялікая колькасць жыхароў паасобных вёсак. На кожным з іх былі войт Мікалай Павільч і радныя гміны. У адным выпадку радным і солтысам з'яўляецца адна і тая самая асоба — Ян Целушэцкі.

У сакавіку выбарныя сходы запланаваны ў Янове (2.03), Скупаве (4.03), Гарадзіску (7.03), Альхоўцы (9.03), Новым Масеве (11.03), Ахрымах (13.03), Новай Луцэ (16.03), Лесной (18.03), Крыніцы (20.03) і ў Міхнаўцы (23.03). Пачынацца яны будуць а 18 гадзіне.

**(яц)**

# Крынскі дарожны прагноз

Дзве доўгавалосыя гімназісткі, ахутаныя пледамі, адпачываюць пасля падарожжа з Аполя ў Крынкі. Заўтра чакае іх цяжкі, поўны абавязкаў дзень. Да працы нанялíся ў свайго бацькі, Яцка Кіхмана, які прывёз іх сюды з другога канца Польшчы.

— Маё прозвішча гучыць па-нямецку, але пашпарт у мяне толькі польскі, — смяецца Яцэк. — Калісь, у лепшых, яшчэ даўнійных, дашэнгенскіх часах, шмат людзей з падвойным пашпартам выязджала ад нас за хлебам у Германію. Добра тады зараблялі. Пасля трох месяцаў працы маглі сабе дазволіць купіць нават новы аўтамабіль. А сам я з Усходу. Адна частка маёй сям'і жыла на Львоўшчыне, другая — на Віленшчыне. Магу пахваліцца, што бабуля ад старааны мамы брала шлюб у Вострай Браме. Мой бацька нарадзіўся ў 1945 годзе ў цягніку, які вёз падльвоўскіх рэпатрыянтаў. Цягнік затрымаўся ў Аполі і там яны засталіся.


Яцэк Кіхман

З Яцкам Кіхманам гутарым пры століку, застаўленым дакументамі, картамі і, канешне, камп'ютарам.

— Чым дакладна займаецеся?

— Цяпер інвентарызацыяй дарожнай сеткі ў Крынскай гміне. Кожная дарога, як пацыент у лекара, павінна мець сваю картатэку, у якой змяшчаюцца яе тэхнічныя параметры, ход і апісанне інфраструктуры, значыць, дарожныя знакі, ліхтары, род паверхні, перашкоды, бар'еры, водапрапускныя збудаванні, аб'екты, што знаходзяцца побач. У картатэку заносяцца таксама рэкамендацыі наконт рамонтаў ці новых дарожных знакаў. Калі дарога кепская, тады трэба, для прыкладу, абмежаваць хуткасць ці танаж праязджаючых па ёй аўтамабіляў. Потым час ад часу неабходна правяраць ці ўказанні выконваюцца. Займаюся таксама мастамі. У Крынках няма надта вялікіх мастоў, ёсць адзін па вуліцы Таргoвай. Пакуль я няўпэўнены ці гэта мост, ці толькі водапрапускная труба. Праз дзесяць гадоў ён можа заваліцца, таму цяпер мушу ацаніць яго тэхнічны стан: ці яшчэ да нечага прыдатны, ці трэба ўвесці абмежаванні ў яго выкарыстанні. Практычна кожную дарогу мушу прайсці і памераць асабіста, і толькі пасля правяраю гэта з так званымі „падкладкамі". Бывае, пяройдзеш дарогу і не заўважыш водапропуску, які нанесены на карту. З нейкага часу, для ўласных патрэб, пачаў я рабіць фотагалерэю дарог і месцаў.

— Што скажаце пра падкрынскія дарогі?

— З размоў з мясцовымі ведаю, што на другім баку мяжы яны надта якасныя. У Крынскай гміне ў большасці выпадкаў гмінныя дарогі лепшыя за павятовыя. Праўду кажучы, па некаторых крынскіх павятовых дарогах цяжка мне было сёння праехаць. Такія калдобіны, што не перавысіў хуткасці 40 км у гадзіну, а мясцовыя аляраджвалі мяне. Выбраўся я ў Шацілы праз Крушыняны, але даехаў толькі ў Саннікі, далей ужо пабаяўся. Здаецца, Крынкі па прычыне свайго геаграфічнага распалажэння ніколі не мелі добрай дарожнай сеткі. Толькі цяпер пачынаюцца тут нейкія перамены ў лепшы бок. Але яшчэ шмат працы трэба ўкласці.

— Здаецца, зарыентавацца ў распалажэнні нашых выміраючых вёсак таксама не зусім проста.

— Я бачыў старыя знакі на бетонных слупах, якія патрабуюць абнаўлення. Яны нязгодныя з актуальнымі законамі, значыць, на іх чорныя літары на жоўтым фоне замест белых на зялёным. Пры адной з найдаўжэйшых мясцовых дарог Крынкі — Калёнія Рахавік — Востраў — Старая Грыбоўшчына — Ляшчаны я б запрапанаваў дадатковыя ўказальнікі ў Старую і Новую Грыбоўшчыну. Там усё-такі жывуць яшчэ людзі. Недалёка знаходзіцца цудоўная царква, да якой таксама няма ўказальніка, тое ж самае тычыцца Вершаліна.

— Жыхары недалёкай Нетупы сцвярджаюць, што пазначаная на дарожных знаках колькасць кіламетраў з іх вёскі ў Гарадок ці Крынкі няправільная.

— Абяцаю звярнуць на гэта ўвагу, але калі ідзе пра Нетупу, там неабходна паставіць указальнік у вёску Слабодка, каб людзі ведалі як туды даехаць. У самых Крынках на канцы вуліцы Новай запрапаную паставіць знак канец мясцовасці Крынкі і ўказальнік у Калонію Нетупа.

— Як выканаць Вашыя рэкамендацыі?

— Канешне, неабходныя бюджэтныя сродкі. Калі дарога застанецца без праведзенай інвентарызацыі, ніхто на яе рамонт не дасць грошай. Таму некаторым самаўрадаўцам залежыць на хуткім яе выкананні. Інвентарызацыя дарогі з'яўляецца базай для далейшых канкрэтных праектаў.

— Ваш прагноз для Крынак...

— Калі б дарожную сетку крыху паправіць і дабавіць трохі лясных, роварных сцежак, я бачу вялікі патэнцыял для развіцця турызму. У Крынкі папаў я ўпершыню ў ліпені прошлага года і ў іх закахаўся. Раней працаваў я ў Бяшчадах, пад Ольштынам, але нідзе больш мне так не спадабалася як тут. Закахаўся я ў незвычайную прыгожасць вашых лясоў, у іх цішыню і спакой. Калі б была праца, застаўся б тут назаўсёды.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# Прафесар В. А. Сцепановіч на пенсіі


Справа: дэкан Гуманітарнага факультэта ПГУ праф. Станіслаў Ячынскі, праф. Васіль Сцепановіч і дырэктар Інстытута грамадскіх навук і бяспекі ПГУ праф. Міраслаў Мінкіна

У Прыродазнаўча-гуманітарным універсітэце ў Седльцах адышоў на пенсію праф. Васіль Аляксеевіч Сцепановіч. Працаваў ён у Інстытуце грамадскіх навук і бяспекі Гуманітарнага факультэта ПГУ. Спецыялізаваўся ў даследаваннях у галіне гісторыі філасофіі, філасофіі адукацыі і бяспекі чалавека ў дзяржаве і грамадстве. Аўтар больш за 200 навуковых публікацый. Выкладаў з 1969 года. У 1989 годзе стаў рэктарам Брэсцкага педагагічнага інстытута і ў 1995 годзе даведу да яго пераўтварэння ў Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя Аляксандра Пушкіна. Пасля заканчэння працы ў БрДУ на пасадзе рэктара пачаў выкладчыцкую працу ў Падляшскай акадэміі (цяпер Прыродазнаўча-гуманітарны ўніверсітэт) у Седльцах.

Праф. Васіль Сцепановіч сказаў „Ніве", што праца ў сядлецкай ВНУ прынесла яму выдатны вопыт. Атрымаў ён тут магчымасць разгарнуць свае даследаванні і параўнаць іх з аналізамі беларускіх вучоных. Як адзначыў, асаблівае задавальненне прынесла яму дыдактычная праца са студэнцкай моладдзю. „У мяне са студэнтамі заўсёды быў выдатны кантакт. Калі я пачынаў працу ў Седльцах, я быў прыемна ўражаны, што тут шматкультурнае асяроддзе. Сустрэў я шматлікіх беларусаў, не толькі грамадзян Рэспублікі Беларусь. З пункту гледжання даследчыка цікавым вопытам для мяне быў кантакт з прадстаўнікамі беларускай меншасці ў Польшчы. Як удзельнік навуковага супрацоўніцтва паміж Брэстам і Седльцамі, якое пачалося яшчэ ў палове 1980-х гадоў, я задаволены, што ўдалося многае дасягнуць. Мы садзейнічалі ў галіне даследаванняў, ладжання канферэнцый, ажыццяўлення дыдактыкі, абмену моладдзю. Супрацоўніцтва прынесла карысць нашым вышэйшым навучальным установам, а таксама пасадзейнічала збліжэнню нашых народаў і ўзаемапазнанню", — сказаў праф. Васіль Сцепановіч.

**Адам БОБРЫК**

# Паштовы прыярытэт

Не хочацца паўтараць сваіх сумных назіранняў на тэму дзяржаўнага яшчэ прадпрыемства „Польская пошта", асабліва ліквідацыі інфраструктуры ў вясковым асяроддзі і дзіўнай кадравай палітыкі. Не хачу яшчэ раз пісаць аб тым, што ў адсталым і недэмакратычным царскім часе звычайныя лісты даставяліся з хуткасцю сённяшніх прыярытэтаў — магу гэта даказаць на аснове старой сямейнай карэспандэнцыі. Відаць, дыліжансы ездзілі хутчэй, чым сённяшнія паштовыя машыны, а жывыя коні былі больш жвавыя, чым механічныя. Але хачу звярнуць увагу ўсіх кліентаў гэтай установы на чарговае ашуканства.

Простыя лісты звычайна даходзілі да адрасата на працягу трох дзён — так яшчэ было пры камуне. У наш час гэты тэрмін расцягнуўся да тыдня. Чаму — ніхто не ведае. Пра тое, што пошта можа працаваць хутчэй, сведчылі ўведзеныя некалькі гадоў таму г.зв. прыярытэтныя перасылкі. Пісьмо высланае сёння, даставлялася на другі дзень, вядома, за большай аплатай. Часта, калі была пільная патрэба, я такой паслугай карыстаўся і спачатку быў задаволены. Але з нейкага часу „прыярытэты" таксама сталі даходзіць да атрымальнікаў у чарапашым тэмпе. Калі я пацікавіўся прычынай, то ў паштовым аддзяленні сказалі мне, што ўсё адбываецца ў адпаведнасці з законамі. Сёння высланы прыярытэтны ліст мае быць дастаўлены адрасату на працягу двух чарговых дзён. Такім чынам тэрмін дастаўкі расцягнуўся ўдвая пры гэтай жа самай, на жаль, аплаце. Інакш, чым несумленнасцю ў адносінах да кліентаў, назваць гэтага нельга. Але хто сёння бярэ да сэрца нейкую там старасвецкую пристойнасць?

**М. Ц.**



Сустрэча ў Польскім інстытуце. Злева направа: Анатоль Вап, Уршуля Дарашэўская, Агнешка Карыткоўская-Мазур, Мікалай Рудкоўскі, Дзмітрый Багаслаўскі

# Мінск — Гродна. За кулісамі (ч. 4)

Польскі інстытут, які афіцыйна дзейнічае пры пасольстве Польшчы ў Мінску, з'яўляецца своеасаблівым цэнтрам культуры не толькі польскай у Беларусі. Гэта адзіная, побач Нямецкага інстытута імя Гётэ, такая заходнееўрапейская ўстанова ў Мінску. Тут кіраўнік беластоцкага драмтэатра Агнешка Карыткоўская-Мазур і дырэктар дэпартамента культуры Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства Анатоль Вап падчас нашага мінскага візіту сустрэліся з найцікавейшымі беларускімі драматургамі Мікалаем Рудкоўскім і Дзмітрыем Багаслаўскім. На стале ляжаць нядаўна апублікаваныя «Вяселле» і «Варшавянка» Выспянскага ў перакладзе на беларускую мову пісьменніка Лявона Баршчэўскага ды Фрэдраўская «Помста», перанесеная на беларушчыну Андрэем Хадановічам ды «Паненскія абяцанні» — Марыяй Мартысевіч. На адной са сцен невялікі плакат запрашае ў галерэю «Ў» на Міжнародны паэтычны фестываль «Вершы на асфальце», які пачынаецца праз тры дні.

Сустрэча ў Польскім інстытуце гэта не толькі запрашэнне да супрацоўніцтва дырэктаркі Карыткоўскай-Мазур абодвух драматургаў да міжнароднага, доўгатэрміновага тэатральнага праекта театра імя Вянгеркі, вынікам якога мае быць стварэнне новага драматычнага тэксту і спектакля. Гэта таксама магчымасць пагаварыць на іншыя тэмы.

## Трымаць еўрапейскі сцяг

У сваім кабінеце дырэктарка Інстытута Уршуля Дарашэўская, дзяячка апазіцыі ПНРаўскай эпохі, у 2008-2013 гадах амбасадар Польшчы ў Грузіі, прызнаецца:

— Мы тут адзіны еўрапейскі інстытут такога тыпу, не лічачы Інстытута Гётэ, які праводзіць некаторыя іншыя віды дзейнасці. Няма ў Мінску ані Брытыш Каўнсыл, ані Інстытута Сервантэса ці Альянс Франсез. У Беларусі сувязь з еўрапейскай культурай вельмі глыбокая, але яна сёння не мацуецца нейкімі шырокімі кантактамі. Мы адзіная арганізацыя, якая спрабуе гэта ўзмацняць. Вядома, ёсць прыкметны ўплыў расійскай культуры, але яна настолькі магутная, што яе інстытуты асабліва не стараюцца тут паказацца, і калі так, то галоўным чынам у камерцыйным маштабе і з прапановамі часта не самага высокага калібру, але, вядома, яны цікавыя, асабліва калі справа ў класічнай музыцы. У той жа час ёсць паток, напрыклад, іхняй «таннай» літаратуры. Такім чынам, мы тут мусім высока трымаць сцяг усёй Еўропы.

Успамінаючы аб літаратуры, спадарыня дырэктар не хавае:

— На дадзены момант, ва ўсім свеце праблемай з'яўляецца выдаванне кніг. Часта аўтары павінны самі плаціць, каб ім была выдадзена кніга. Беларусь не з'яўляецца вялікім кніжным рынкам. Па-беларуску чытае больш дзесяці адсоткаў насельніцтва, магчыма менш, бо размаўляе больш за дзесятак адсоткаў, а чытае кнігі ў асноўным беларуская інтэлігенцыя. На працягу многіх гадоў Інстытут прафінансаваў кнігі на беларускай мове. Ёсць некалькі крыніц фінансавання, хоць у апошні час у кнігарнях шмат кніг на беларускай мове, выдадзеных дзяржавай, па гісторыі і этнаграфіі. Наш Інстытут дапамагае адукаваць перакладчыкаў; ладзяцца спецыяльныя семінары, якія вядзе Адам Паморскі (старшыня польскага ПЭН-клуба — М. Х.). Колькасць перакладчыкаў з польскай мовы на беларускую расце лавінна, і мы атрымліваем усё больш і больш запытаў на фінансаванне перакладаў не толькі польскай мастацкай літаратуры, але і навуковых публікацый. На жаль, гэта вельмі дарагія праекты і засяроджваючыся на іх, нічога больш мы не маглі б зрабіць. Тут мы павінны знайсці іншае рашэнне. Спачатку нам здавалася, што ў беларускамоўнай выдавецкай дзейнасці паможам і само гэта неяк раскруціцца, будуць чытачы, і за гэтым грошы. На жаль, гэта не так.

Пералічвае планы Інстытута:

— Рыхтуемся да прэзентацыі выставы традыцыйнага народнага ручніка з Музея ў Бельску-Падляшскім. Мы нядаўна правялі ў Мінску фантастычную выставу праф. Анджэя Струміллы, нядаўна адкрылі яе ў Гомелі. Мы паказалі ў мінулым годзе ў Мінску, Гродне і Магілёве «Пана Тадэвуша» — нямы фільм з 1928 г., які тут выклікаў вялікую сенсацыю. Выступае ў ім на працягу шасці секунд замак у Міры, які «зайграў» замак Гарэшкаў. Гэта выклікала вялікае ўражанне на кіраўніцтве замка і фільм з жывой музыкай у выкананні кампазітара з Варшавы Марціна Пукалюка будзе паказваны на замку ў якасці турыстычнага атракцыёна ў летні час. Упісваецца гэта таксама ў больш інтэнсіўнае польска-беларускае турыстычнае супрацоўніцтва. Будзем працягваць арганізоўваць джазавыя вечары ў Мінскай філармоніі.

Калі менш афіцыйна размаўляем з супрацоўнікамі Інстытута, аказваецца, што яшчэ яркія ўспаміны выклікае снежаньскі паказ фрагментаў «Вяселля» ў рэжысуры Андрэя Саўчанкі ў выкананні акцёраў тэатра імя Янкі Купалы ў рамках Месяца польскай літаратуры. Ад намесніка дырэктара Інстытута Тамаша Адамскага мы даведваемся, што ў Мінску, як паведамляецца, пройдуць Дні Беластока:

— Дэталяў не ведаю.

Анатоль Вап:

— Ну я таксама на гэтую тэму нічога не ведаю. Тым не менш, калі б яны былі, дык хутчэй у супрацоўніцтве з нашай установай. Я ведаю, што мы як установа зацікаўлены ва ўдзеле ў бліжэйшы час у турыстычным кірмашы.

## Нашы пяць хвілін

У пачатку другой паловы дня 11 лютага на зваротным шляху з Мінска перад сустрэчай з дырэктарам Гродзенскага драматычнага тэатра наведваем генеральнага консула Польшчы ў Гродне Анджэя Хадкевіча. Вітае нас у сваім кабінеце, дзе са сцяны насупраць увахода глядзіць на нас велізарная выява караля Стэфана Баторыя. Дырэктар Карыткоўская-Мазур распавядае аб сваіх ідэях супрацоўніцтва з беларускімі тэатрамі. Консул з цікавасцю слухае, але раней, павітаўшыся, дзеліцца сваімі марамі:

— Цяпер нашы пяць хвілін, каб вярнуць тут прапольскага гледача, неабавязкова польскага паходжання. Тым больш, што зараз добрая магчымасць — 250-годдзе польскага дзяржаўнага тэатра. Добра было б у Гродне вярнуцца да традыцыі польскага аматарскага тэатра. Я ў канцы перамоў па гэтым пытанні з Віктарам Шалкевічам (гродзенскі акцёр і бард — М. Х.). Ён хацеў стварыць трупу, але будзе яму патрэбная дапамога.

Дырэктарка беластоцкага драмтэатра з ходу прапануе:

— Мы даем магчымасць зацікаўленым уключыцца ў майстар-класы «Малыя Вянгеркі», што перыядычна адбываюцца ў нас.

У далейшай частцы размовы консул звяртае ўвагу:

— Трансгранічны рух паміж Беларуссю і Польшчай рэзка зніжаецца, але ёсць вялікі інтарэс да Польшчы.

У час размовы даведваемся, што консул рыхтуецца да сустрэчы з кіраўнікамі беластоцкіх гандлёвых цэнтраў. Хоча пераканаць іх выкарыстаць добры час у Беларусі з польскага пункту гледжання і добры клімат, які ў апошні час ствараюць для польска-беларускага супрацоўніцтва гродзенскія ўлады:

— Гэта тысяча ўсіх іншых відаў прапаноў, якія павінны стварыць для Гродзеншчыны беластоцкія, падляшскія ўлады і ўстановы, у тым ліку культурныя. Зараз усё Падляшша павінна праявіць большую актыўнасць на гэтым баку. Неўзабаве Падляшша наведае група журналістаў мясцовых СМІ з Гродзеншчыны. Асабліва зацікаўлены яны ў функцыянаванні фермерскіх гаспадарак. Цяперашняму мэру Гродна залежыць на кантактах, чакае прапаноў. Мы павінны «ўваходзіць» у іх мерапрыемствы, напрыклад, удзельнічаць у фестывалях джазу, лялечных тэатраў і іншых.

Пры нагодзе запэўнівае:

— Бясплатныя візы ў рамках культурнага абмену будуць захаваны. Ёсць нейкая надзея, што пасля сустрэчы на вышэйшым узроўні на травеньскім саміце Усходняга партнёрства ў Рызе візы для беларускіх грамадзян будуць таннейшымі.

## Заахвочванне -знеахвочванне

Па дарозе да пагранперахода Брузгі-Кузніца ўспамінаюцца мне словы Уладзіміра, з якім я размаўляў неўзабаве пасля свайго прыбыцця ў Мінск і якраз перад ад'ездам, у дзень, калі ў беларускай сталіцы адбываўся саміт па будучыні Украіны:

— Я толькі што пачуў па тэлевізары як ноччу Абама заявіў, што сустрэча ў Мінску гэта апошні шанц для мірнага ўрэгулявання канфлікту ва Украіне.

Раніцай таго дня я купіў у кіёску адну з урадавых газет «Беларусь сегодня». Асноўны тэкст на першай старонцы: «Судьба Украины решается в Минске». Астатняя частка тэксту запаўняе рашучую частку пятай калонкі. Пад сподам яшчэ адзін тэкст — сенсацыя з польска-беларускай мяжы «TaxFree з сакрэтам». Аўтар апісвае дзеянні польскай мытні, памежнай і падатковай службаў з кодавай назвай «Jabłuszko», якая нібыта з'яўляецца — як я прачытаў — «попыткой ограничить возможность мошенничества по возврату НДС (VAT) на дорогую бытовую технику». Цікава, адкуль такая збітка тэкстаў: размовы аб вайне ва Украіне і акцыя польскіх службаў на нашай мяжы. Паказваю консулу Хадкевічу:

— Гэта ад нейкага часу ўпісваецца ў палітыку знеахвочвання беларусаў да Польшчы, асабліва ва ўмовах эканамічнага крызісу ў Беларусі. Такое адпалохване ад прыбыцця і пакупак у Польшчы. «Беларусь сегодня» з'яўляецца палітычным органам улад у Мінску. Без сумневу, гэтая збітка мае палітычны кантэкст.

Пасля вяртання ў Беласток правяраю, што з днямі Беластока ў Мінску. Дырэктарка Бюро прамоцыі горада беластоцкага магістрата Моніка Камінская тлумачыць:

— На самой справе мы папрасілі адну з фірм сарыентавацца, зрабіць выведку ў Мінску пра магчымасць арганізацыі аднадзённай прамоцыі Беластока. Гэта вынік нефармальных перамоў у кастрычніку мінулага года сакратара горада Кшыштафа Карпешука на мінскім турыстычным кірмашы, у тым ліку з намеснікам міністра турызму Беларусі. Тая фірма, аднак, не мае нашай згоды весці перамовы наконт дэталяў. Мы хацелі б тады ў першай палове дня прадставіць нашу турыстычную прапанову і гандлёвыя сеткі, а ў другой палове — маладую беластоцкую культуру на адкрытым паветры: танец і музыку. Мы паслалі адпаведныя прапановы мінскім уладам. Не атрымалі дасюль адказу, а ўсё ж без узгаднення з імі нічога не зробім.

Ноччу ўжо дома чытаю навіны сусветных агенцтваў, што на саміце ў Мінску дамовіліся: «Прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін, прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка, прэзідэнт Французскай Рэспублікі Франсуа Аланд і канцлер Нямеччыны Ангела Меркель пацвердзілі поўную павагу суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны. Яны глыбока перакананы, што няма альтэрнатывы для выключна мірнага рашэння. Яны таксама цалкам гатовы прыняць дзеля гэтага ўсе магчымыя меры, як паасобна, так і разам».

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Вясёлыя вершыкі

— У нас у школе кожны робіць тое, што хоча, — кажа Орэст Пячынскі. Гэта пра падборку вершаў на конкурс „Роднае слова". Ён сам дэкламаваў верш пра „беднага Саўку".

— Бо гэты верш для мяне найбольш смешны, — адзначае хлапчук-жартаўнік. Свой верш, як прызнаўся, вывучыў мігам, за два дні.

— А колькі часу, — пытаем, — будзеш яго памятаць?

— Не ведаю... — думае ўголас Орэст, — можа нейкія тры месяцы!

5 сакавіка г.г. у бельскай „тройцы" прайшоў школьны этап „Роднага слова" для наймалодшых. Дэкламавалі ўжо дашкольнікі ды вучні ад першага па трэці класаў. Агулам назбіралася грамада за шэсцьдзесят дэкламатараў.

— У нашым класе ўсе дзеці хацелі выступаць — кажа Лаўра Анхімюк. Лаўра рашыла выступіць з вершыкам пра „нягжэчнага" барсука, каб больш каларытна праявіць сябе на сцэне. Яна незвычайная дэкламатарка. Дзяўчынка адчувае сябе на сцэне як рыба ў вадзе.

— Калі дарасту, стану акцёркай, — заяўляе.

Лаўра ходзіць на тэатральныя заняткі ў Бельскі дом культуры. А да беларускага конкурсу падрыхтавала яе і Орэста іх настаўніца беларускай мовы Валянціна Бабулевіч. Пра школьны этап „Роднага слова" можна сказаць шмат цёплых слоў. Не толькі пра дзяцей, але і пра іх мамы і настаўніцы. У гэты дзень усе дэкламатары вылучаліся густоўнай элегантнасцю. Амаль усе дзяўчынкі задбалі аб прычоску і апрануліся ў чорна-белыя касцюмчыкі. Хоць у журы працавалі іх настаўніцы Валянціна Бабулевіч, Яніна Зіневіч і тэатральны інструктар Альжбета Фіёнік, дзеці адчувалі важнасць падзеі. Не дзіва, што пасля заканчэння першага этапу камісія пахваліла ўсіх выступоўцаў. Некаторыя з іх, як згаданая Лаўра, выступілі так класна, быццам на цэнтральным этапе конкурсу „Роднае слова". Нам падабаўся жывы, святочны настрой свята. Згодна традыцыі „Зорка" прызначыла сваю ўзнагароду — кніжку шведскіх аўтараў Ульфа Нільсана і Эвы Эрыксан пра выступленні на школьнай сцэне і пра хвалянне пад загалоўкам „Найлепшы спявак у свеце". Атрымаў яе першакласнік Эльяш Гапанюк. Хлапчук, як той герой кніжкі, вельмі расхваляваўся на сцэне, аднак не здаўся. Эльяш выступіў другі раз, ужо ўпэўнена і ў поўнай засяроджанасці. І атрымалася, нягледзячы на цяжкі пачатак, надзвычай прыгожа. Важна, каб у час такіх конкурсаў паверыць у свае магчымасці.

ЗОРКА



ЛАЎРА АНХІМЮК



МІХАСЬ ВАРДЗЕЦКІ



ЭЛЬЯШ ГАПАНЮК

Фота Ганны КАНДРАЦЮК



## УВАГА КОНКУРС! № 11-15

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 22 сакавіка 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

З цёмнай хмары наўскасяк
Скочыў на зямлю басяк
І пусціўся басаном.
Вы яго пазналі?
(Д....)

Вясна прыгрэе — шубу надзене,
зіма наступае — шубу скідае.
(Л....)

Возіць усіх на сабе
і за сабой.
Сам жа заўсёды
ідзе пехатой.
(К...)

Адказ на загадкі № 7-15: грак, неба. Узнагароды, зборнік вершаў А. Клышкі "Сямейная чытанка", выйгралі Раксана Івацік з Гайнаўкі і Тымэк Петручук з Нарвы. Віншуем! (Вынікі жараб'ёўкі вы можаце пабачыць ужо ў сераду на фейсбуку на сайце Сустрэч «Зоркі»)

Габрыеля ТОРКА
Грабоўка, ПШ імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку

## Казачны заапарк

Калі ў заапарку
змрок западае,
Мама казкі апавядае.
Сказала, што пантэры і лісу
Трэба яблык поўную місу.
Леў Тэадор мае мары,
Каб купацца ў хмары.
Слон —
Гэта вялікі конь.
А мядзведзь
Ходзіць ледзь-ледзь.
Мама пра ўсіх казала,
Толькі пра сябе забывала.

# ТРЫ ЗЯРНЯТКІ КАВУНА

*(узбекская казка)*

Жыў аднойчы сціплы чалавек. Працаваў ён ад рання да ночы, каб пракарміць сям'ю. Аднойчы выйшаў ён у поле і бачыць — у высі бусел лётае. Раптам бусел заклекатаў і ўпаў галавой аб зямлю. Падбег да яго чалавек, бачыць, у птушкі крыло паламанае. Падняў ён бусла з зямлі і панёс у хату. Доўга ён лекаваў птушку, у рэшце рэшт бусел акрыяў і адляцеў. Пабачыў гэта чалавек, радасна ўздыхнуў і сказаў:

— Жыві доўга і са сваім родам шчасліва кружы па блакітным небе!

На другі год чалавек выйшаў у поле сеяць. Да яго прыляцеў той самы бусел, якога ён вылечыў, і кінуў на зямлю тры зярняты кавуна. Падняў чалавек зерне і кінуў у раллю.

Выраслі з іх тры велізарныя кавуны. Людзі дзівาваліся. Ніхто раней не бачыў такіх прыгожых пладоў. Чалавек сарваў кавуны і прынёс дахаты.

— Я сам не дам рады іх з'есці. Трэба мне запрасіць сяброў, падзяліцца з імі салодкім ураджаем.

Як думаў, так і зрабіў. Прыехалі ў яго двор людзі, кожны з падарункам і добрым словам. Пачаў чалавек кроіць кавун і не дасць рады. Тады рашыў разрэзаць другі — і таксама не дасць рады. З трэцім адбылося тое ж. Здзівіўся чалавек і госці здзівіліся. У рэшце рэшт ён ударыў нажом з цэлай сілы. Кавун лопнуў, а ў сярэдзіне... залатыя манеты! Чалавек дабыў золата з трох кавуноў і падзяліўся ім са сваімі гасцямі. Пасля ён пайшоў на поле і выбраў яшчэ трыццаць такіх кавуноў. І стаў жыць у багацці і дастатку. Пабачыў гэта зайздросны сусед і захацеў ведаць як чалавек разбагацеў. Зайшоў ён у хату і пытае:

— Скажы, што ты зрабіў, каб стаць такім багатым?

Чалавек расказаў як было з буслам.

Пабег зайздросны сусед у поле выглядаць бусла. Хадзіў, хадзіў, аж бачыць — бусел па полі ходзіць. Падкраўся да яго сусед і ўдарыў калом па назе. Заклекатаў жаласна бусел і зваліўся на зямлю. Ухапіў яго сусед і панёс да сваёй хаты. Там ён стаў лекаваць птушку. Праз некалькі тыдняў бусел аздаравеў і пашыбаваў у неба.

Выйшаў увясной сусед у поле і чакае бусла. Птушкі аднак нідзе не было відаць. Ад рання да вечара ўзіраўся ў неба зайздросны сусед і думаў: ці прыляціць той бусел, ці не?

Нарэшце прыляцеў бусел і кінуў яму тры зярняткі. Сусед адразу іх пасадзіў у зямлю. Калі кавуны саспелі, ён паклікаў сваіх гасцей. Ды калі раскроіў тры кавуны, з сярэдзіны замест золата ўзляцелі злосныя шэршні. Сталі яны гудзець і джаліць зайздроснага суседа і яго гасцей. У іх распухлі губы і шчокі, і ўсе з жудасным крыкам разбегліся ў свае бакі.

***(Пераклад з рускай мовы Ганны КАНДРАЦЮК)***

## РАБОЧЫЯ АПРАНАХІ

Малюнак Госі Пархвянюк і Магды Панасюк

## Гурт „Вясёлыя ноткі”

Фота Янкі Целушэцкага

*Дзіцячы гурт „Вясёлыя ноткі” з Непублічнай пачатковай школы ў Арэшкаве Гайнаўскага павета працуе пад кіраўніцтвам Габрыелі Вэршко. Выступіў ён 20 лютага 2015 года на культурна-забаўляльным мерапрыемстве ў Гмінным асяродку культуры ў Дубінах. Спявай беларускія песні.*

## Вершы Віктара Шведа

### Калі пачаў?

— Калі быў малы, як ты
Кажу праўду, Божа збаў,
Быў я поўны дабраты
І ніколі я не лгаў.

Пражыў татка шмат гадоў,
Многа ўсялякіх спраў.
— Дык прызнайся, ці гатоў
Мне сказаць, калі пачаў?

### Калі ты ажаніўся, татка?

— Калі ты ажаніўся, татка?
— У дваццаць чатыры гады.
— Ну а дарагая матка?
— Малодшая была тады.

— Дык наша мама
За цябе выйшла замуж
Крышачку раней —
Падсумаваў Андрэй.

### Сустрэча з лекарам

Расказвала Оля
З гарадскога прадшколля:
— Быў у нас сёння лекар,
Не рабіў дзецям здзекаў,

Не былі ў паняверцы.
Слухаў стук нашых сэрцаў,
Слухаў ён і ў мяне:
Аддыхаю — ці не?

### У аптэцы

— Купіў у вас я пластыр
Ад рэўматызму злога.
Тут не бываю часта,
Не трэба мне нічога.

Не патрабую лекаў,
Дык я здаровы быццам.
Дайце мне штосьці без здзекаў
Каб пластыра пазбыцца.

## Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

№ 11-15

**Адказ на крыжаванку № 7:**

Лапа, авёс, язык, мы, пас, тата, пеўнік, аўтамат, тэатр, марка. Камітэт, вы, пара, спеў, аўтар, вясна, імам, лытка, акт, тур, арабіна.

Узнагароды, фламастэры, выйгралі **Юлія Шкляжэўская** з Нарвы, **Вераніка Кардзюкевіч** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Сара Скаўронская** з ПШ № 4 у Беластоку, **Наталля Ніканюк** з Арэшкава, **Іаанна Нікіцюк, Дамініка Календа, Магда Рошчанка, Кацярына Лаўрашук** з КШ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Уля Марчук** з Нараўкі. Віншуем!

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Zadanie | | | | | | | | |
| | Sól | Sum / Praca | Rap | | Przewaga | Re / Nie | | Waleryk / Halo | | | | Rok / Oaza |
| | Płot | | | | | | Smyk | Nora | | | | |
| Przed-wiośnie | | | | | | | | | | Ali / Lida | | |
| Łapa | | | | | Ar | Markiz | | | | | | |
| | | | Cztery | | | | | | | | | |
| Moc / Towar | | | | | | Kaktus | | | | | | |

# Катлеты па-тутэйшаму

## або Зусім не кулінарныя вандроўкі ў часе і прасторы



Шматкультурнасць — самая модная цяпер тэма ўсякага роду культурна-грамадскіх пачынанняў. Іх, як і культур на Падляшшы, асабліва шмат. На першы погляд усё быццам у казцы. Думаеш сабе, вось пра нас нехта пачаў клапаціцца, а прынамсі заўважаць нашае спрадвечнае тут існаванне. Часта бывае, што такімі ініцыятывамі ці справамі займаюцца перасяленцы з другіх куткоў Польшчы, для прыкладу, з Варшавы, якім не хапае ведаў і разумення іншага культурна-грамадскага каларыту. З'ехаўшы, спешна ставяць вялікія хаты і таксама спешна падпарадкоўваюць сабе мясцовае насельніцтва. Сапраўдныя лідары, што тут гаварыць. І вось мелюць яны мяса і што там яшчэ пад руку трападзе на свае катлеты. Асноўнае, каб катлетаў было як найбольш, прытым іх якасць застаецца другараднай справай. Важнае, каб страўнік быў поўны і каб яшчэ засталося.

І так некалькі дзён таму пазваніла мне варшаўска-падкрынская лідарка, якая здолела ўжо авалодаць, між іншым, мясцовай, эканамічна-інтэлектуальнай жаночай элітай.

— Робім „Ноч музеяў" у Крынках, — кажа з узбуджанасцю лідарка, — хочам, каб было па-жыдоўску, па-татарску, а таксама па-праваслаўнаму і па-беларуску. Сваю падтрымку абяцалі, між іншым, дзеячы Фонду „Віла Саката". Запрапанавалі зрабіць у сябе перапынак у нашай начной вандроўцы, можа ў вілу нас упусцяць.

Гэтая прапанова здалася мне быццам абвяшчэнне, што вось, я выйграла мільён у латарэі. Яны — эліта — пацікавіліся беларускімі справамі! Неправдападобнае здарэнне, асабліва пасля майго двухгадовай даўнасці візіту ў іх з лекцыяй пра абрад дзядоў, на завяршэнне якога згаданая лідарка пры ўсіх прысутных абазвала мяне беларускім індактрынатарам, зрабіла чорнай авечкай элітарнай чарады. Але ж людзі, прынамсі часам, мяняюцца і трэба выбачаць, даваць чарговы шанц.

— Як я магу вам дапамагчы? — пытаю з захапленнем і таксама з узбуджанасцю.

— Раскажы нам пра месцы, звязаныя з беларускасцю і праваслаўем, для прыкладу, пра могільнікавую каплічку.

— Прапаную пазнаёміць вас з асобай Пералайкі, славутага, але прызабытага дырыжора царкоўнага і беларускага хору, які спачывае на цвінтары. Непадалёк ад царквы стаіць будынак, у якім працавала беларуская школа, праўда, толькі год, бо з настаўнікамі і вучаніцамі крывава расправіліся познаньскія легіянеры. Так, прынамсі, сказаў мне Сакрат Яновіч.

— Не, не кажыце гэтага, — гаворыць жанчына, — не хачу тут ніякіх правакацый. Мы павінны паказаць толькі згоднае суіснаванне. Значыць, вы можаце сказаць, што была тут школа, магчыма згадаць пра тое, што там знаходзілася раней і пасля, напэўна нешта адбывалася там раней.

— Ці вы ведаеце, што беларуская сітуацыя тут сапраўды складаная, што ў Крынках няма беларускага школьніцтва, што пра ўсё гэта трэба гаварыць? — тлумачу я, у гэты раз з зусім іншай узбуджанасцю.

— Але апрача вас я тут не сустрэла ніводнага беларуса, — чую ў слухаўцы. — Усе, якіх тут ведаю, называюць сябе ў крайнім выпадку тутэйшымі.

— Дык навошта я вам патрэбная? Вы, мабыць, не той тэлефонны нумар набралі?

— Калі не хочаце ўдзельнічаць у нашым праекце, то хаця свае гісторыі мне падашліце, — настойвае жанчына.

— Вас там столькі, у тым ліку карэнных крынчан, дык раскажаце свае гісторыі, а калі іх няма, вы папросту можаце выдумаць любую версію гісторыі, а найлепш казкі пра крынскіх беларусаў.

Быццам у заліваючай маю інтэрнэтную пошту латарэі. Маняць выйгрышам, каб сцягнуць з цябе апошнія майткі.

Не пасылайце сваіх даных, калі не хочаце, каб зрабілі з іх кепскай якасці катлеты і напоўнілі імі свае жываты.

**Іаанна ЧАБАН**

# Уручылі першыя гайнаўскія ўзнагароды «Quercus»

**У прысутнасці мясцовых прадпрымальнікаў, самаўрадаўцаў, прадстаўнікоў устаноў культуры, адукацыі, самаўрадавых суполак і дзяржаўных службаў, што дзейнічаюць на Гайнаўшчыне, 20 лютага ў Гайнаўскім доме культуры былі ўручаны першыя ганаровыя ўзнагароды бургамістра горада Гайнаўкі «Quercus 2015». Былі ўзнагароджаны гаспадарнікі Сяргей Мартынюк — старшыня Суполкі «Пронар» у Нарве і Мацей Фармановіч — старшыня Мэблевых фабрык «Фортэ» і мастак Віктар Кабац — шматгадовы настаўнік мастацтва і грамадскі дзеяч у карысць Гайнаўкі і наваколля.**



Віктар Кабац

Сабраных прывітаў бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, які разам са старшынёю Рады горада Якубам Астапчуком і ў кампаніі дзяўчат з танцавальнага калектыву «Перапёлка» ўручылі тры першыя ўзнагароды-статуэткі. Запраектаваў іх гайнаўскі мастак, вучань Віктара Кабаца, Яраслаў Пэршко. Статуэтка «Quercus» нагадвае дуб — адзін з сімвалаў прыпушчанскай Гайнаўкі. Дубы растуць у розных месцах Гайнаўкі — у парку, побач некаторых устаноў, а нават на адрамантаваных тратуарах.

— Я размаўляў з многімі на тэму як дацаніць заслужаных людзей для нашага горада. У размове з Яраславам Пэршко дайшлі мы да вываду, што добрай узнагародай для людзей асаблівай працы будзе статуэтка ў выглядзе дуба — сімвала Гайнаўкі і Белавежскай пушчы. Лацінская назва дуба — Quercus, — сказаў бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак. — Першыя ўзнагароды «Quercus» пайшлі да нашых вялікіх вытворчых суполак «Пронар» і «Фортэ», якія даюць працу для многіх жыхароў горада і дабіваюцца поспехаў у маштабе Еўропы. Віктар Кабац гэта наш прызнаны мастак, жывапісец, які заслужыўся Гайнаўцы як шматгадовы настаўнік, які выхаваў многа мастакоў.

Ганаровая ўзнагарода «Quercus» будзе прысвойвацца фізічным і юрыдычным асобам, арганізацыям і іншым адзінкам, каб такім чынам дацаніць іх заслугі ў карысць Гайнаўкі.

— Ідэя ўзнагароды выйшла ад бургамістра Ежы Сірака, а я запраектаваў статуэтку. Узнагарода павінна мабілізаваць да актыўнасці ў карысць Гайнаўкі, — заявіў Яраслаў Пэршко.

На сцэне аўтару статуэткі падзякавалі гарадскія ўлады Гайнаўкі, а ў іх ліку нядаўна прызначаны на пасаду намесніка бургамістра Гайнаўкі Андрэй Скепка, былы гайнаўскі віцэ-стараста. Падчас урачыстасці з сольным міні-канцэртам выступіла Адрыянна Бяджынская, а канферанс вёў Дар'юш Шада-Бажышкоўскі. Статуэткі ўручаліся пад гукі духавога аркестра Добраахвотнай пажарнай аховы ў Гайнаўцы. Перад узнагароджаннем паказваліся кароткія фільмы пра гайнаўскую фабрыку мэблі «Фортэ», суполку «Пронар» і мастацкую дзейнасць Віктара Кабаца. Першым узнагароду «Quercus» атрымаў Мацей Фармановіч — старшыня і саўладальнік Фабрык мэблі «Фортэ», да якой належыць фабрыка ў Гайнаўцы. Фабрыкі групы «Фортэ» знаходзяцца таксама ў Астрові-Мазавецкай, Сувалках, Пярэмышлі і Беластоку. У 1992 годзе Мацей Фармановіч купіў прыватызаваную фабрыку ў Астрові-Мазавецкай і разгарнуў яе дзейнасць на іншыя гарады. Зараз мэбля суполкі «Фортэ» прадаецца ў 1500 магазінах у Польшчы. Айчынны рынак састаўляе толькі 20% ад усяго продажу вытворчасці групы. Мэбля групы «Фортэ» прадаецца да звыш 30 краін, а найбольш яе купляюць у Германіі і Францыі.

— Атрыманне ўзнагароды «Quercus» было для мяне нечаканасцю. Я сёння вельмі ўзрушаны. Калі я ў 1970 годзе адбываў стажыроўку ў Гайнаўскім прадпрыемстве дрэваапрацоўчай прамысловасці, не думаў, што вярнуся сюды і буду займацца вытворчасцю мэблі. Фабрыка ў Гайнаўцы гэта жамчужына ва ўсёй структуры групы «Фортэ». Гэта самая сучасная фабрыка мэблі ў Еўропе. На працягу тыдня мы ў Гайнаўцы выпускаем 15 тысяч штук мэблі, якая едзе ў розныя краіны. Узнагароду «Quercus» заслужылі мясцовыя людзі, якія прадукуюць у Гайнаўцы вельмі добрую мэблю. Я люблю Гайнаўку перш за ўсё па прычыне людзей, якія тут жывуць і працуюць. Люблю горад таксама за вельмі прыгожую прыроду, за цудоўную Белавежскую пушчу, — заявіў старшыня Фабрык мэблі «Фортэ» Мацей Фармановіч.

Другім статую «Quercus» атрымаў Сяргей Мартынюк — заснавальнік і шматгадовы старшыня Суполкі «Пронар» у Нарве, якой філіялы працуюць у Страблі, Нараўцы і Сямятычах. У прадпрыемствах суполкі «Пронар» у Нарве і Нараўцы знайшло працу многа гайнавян. Суполка будуе зараз прадпрыемства прадукцыі восяў у самой Гайнаўцы. Галоўная вытворчасць нарваўскай суполкі «Пронар» гэта прадукцыя трактароў і сельскагаспадарчай тэхнікі. Працуе ў ёй каля 1600 чалавек.

— Я дзякую за прызнанне для суполкі «Пронар», якая вылучаецца не толькі ў маштабе нашага рэгіёна, але і Еўропы. Я сёння задаволены і шчаслівы. Аднак турбуе мяне будучыня нашага рэгіёна, у якім скарачаецца колькасць жыхароў і магчыма, што не будзе людзей да працы ў нашым новабудаваным прадпрыемстве прадукцыі восяў у Гайнаўцы, вытворчасць якога мае ісці на Еўропу. Да працы ў нашай фабрыцы ў Сямятычах ужо не хапае людзей і мы вымушаны папаўняць кадравыя недахопы грамадзянамі Беларусі і Украіны. Зараз у нас штораз менш моладзі. Патрэбныя новыя напрамкі прафесійнай адукацыі ў Гайнаўцы, каб кваліфікаваныя выпускнікі маглі забяспечыць кадравыя патрэбы нашай новабудаванай фабрыкі ў Гайнаўцы, — сказаў Сяргей Мартынюк.

Трэці лаўрэат узнагароды «Quercus» — Віктар Кабац, вядомы беларускі мастак, жывапісец. Ён — выпускнік Мастацкага аддзялення Торуньскага ўніверсітэта, член Саюза польскіх мастакоў, адзін з заснавальнікаў Таварыства аховы краявіду, шматгадовы настаўнік мастацтва ў Агульнаадукацыйным ліцэі ў Гайнаўцы, былы дырэктар Гайнаўскага дома культуры. Мастак перш за ўсё малюе Белавежскую пушчу. Свае работы многа разоў паказваў у Гайнаўцы. З'яўляецца ён саўтарам нядаўна выдадзенай кніжкі «Паўстанчыя сцяжынкі ў Белавежскай пушчы», прысвечанай паўстанню 1863-1864 гадоў. Гайнавянам Віктар Кабац вядомы таксама як грамадскі дзеяч і папулярызатар мастацтва ў Гайнаўцы і яе наваколлі. У працах мастака прысутныя таксама беларускія тэмы і матывы, напрыклад, цыкл работ «Курапаты», якія паказваліся на персанальнай выставе ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы.

— Я не спадзяваўся, што атрымаю ўзнагароду «Quercus». Я зараз моцна ўзрушаны. На працягу 30 гадоў я вучыў мастацтву ў школе і рады, што вучыў я здольных вучняў, якія сталі знакамітымі мастакамі. Між іншым маім вучнем быў Яраслаў Пэршко, аўтар статуэткі «Quercus», якая мне вельмі падабаецца. Я з Гайнаўкай моцна зжыты. Доўга я жыву тут, побач Белавежскай пушчы, майго другога кахання. Белавежская пушча прысутная на маіх працах і я па ёй сумую, сказаў — Віктар Кабац. — У Гайнаўцы растуць дубы, якім 150, 200, ці нават 300 гадоў, чаго не можна ўбачыць у іншых гарадах Польшчы. У нас нават пры вуліцах растуць старыя, прыгожыя дубы. Я прапаную пасадзіць 100 дубочкаў. Няхай новапасаджаныя дубы будуць для наступных пакаленняў тым, чым цяпер для нас з'яўляюцца старыя дубы. Хаця мне 80 гадоў, не хачу яшчэ жыць спакойна і калі дазволіць здароўе, буду займацца творчасцю і грамадскімі справамі.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**




# Я НЕ ГЕРОЙ СВАЁЙ ЭПОХІ

Яго галава была вельмі цяжкая, так ніколі яшчэ не балела. Зусім перабольшыў, дурань! Ах, як баліць! Ці гэта ён адбывае падарожжа самалётам? Праўда, меў ён ляцець у Амерыку, там хацеў папрацаваць і вярнуцца. Ну, ён так хацеў, штосьці там думаў пра гэта, але каб так адразу ў самалёт і ляцець? Страціў мо розум, ці што...

Якраз Максім Лутоўскі выйшаў на ганак хаты сваіх бацькоў і прытрымаўся парэнчы сходаў. Дом быў вялікім будынкам, з шэрагам акон, крыху нагадваў колішні панскі двор. Чакаць, думаў ледзь стаяўшы на лесвіцы, то ж я ў нейкую Амерыку і не выбраўся. З нейкай цяжкасцю Максім прыгадаў сабе выпадкі сённяшняга дня і схапіўся за галаву, які ён смешны! Быў на факультэце і стаў магістрам эканоміі, а пасля пайшлі цэлай камандай у клуб. Папілі здорава! Памятаў, Караліна прычапілася, хацела гаварыць аб іхніх адносінах... Загадаў ёй адысці, паляпаў па спіне і на канец прытрымаў за руку. Хацеў хутчэй да хлопцаў, гарэлкі ці піва напіцца, а тая не адпускала. На канец сказаў ёй, што не маюць аб чым думаць, што паміж імі штосьці стаіць. Ну і меў плач дзяўчыны, якая так яго палюбіла.

Цяпер ведаў дзе ён, скуль ён і чаму так яму баліць галава. Найлепш было б пакласціся спаць, каб не адчуваць гэтага калыхання ў галаве. Не будзе ён думаць і аналізаваць сваіх паводзін наконт Караліны. Яна адазвецца ў нейкі дзень і тады цвяроза паскладваюць што там паміж імі. Адчыніў вялікія і цяжкія драўляныя дзверы і ўкаціўся ў сярэдзіну. Адбіваючыся ад сцяны да сцяны, Максім дабраўся ў свой пакой. Дзякуй Богу, што яго дахаты калега адвёз! Шмат дарогі з горада ў яго мясцінку. Ну і ёсць. Хлопец упаў на салідны драўляны ложак, нават не распрануўся. Не меў сілы. Хто будзе мець прэтэнзіі, ён ужо магістр, абараніўся на пяцёрку. А цяпер адпачываць...

Хтосьці пастукаў у акно, вельмі далікатна, баязліва. Можа вецер галінкаю гуляў, а людзі як людзі, зараз прыдумаюць сабе нейкія страшылкі... Стукатанне не моўкла і чалавек ляжаўшы ў прыемнай цёплай пасцелі рашыў расплюшчыць вочы.

Пры флігелі стаяла дзяўчынка і цярпліва стукала ў акно. Ён звар'яцеў, не адчыняе, а яна ніколі не падыдзе да парадных сходаў. Хутчэй тут замерзне і пахаваюць яе на вясковых могілках у найпрыгажэйшай сукенцы побач маці ў сямейнай грабніцы. Цяпер пастукала кулаком, і гэта дало рэзультат. Прачнуўся! — уздыхнула светлавалосая прыгажуня. Стаяла пад акном хвілін сорак! Акно расчынілася і паказаўся прыгожы твар бацькавага аканома.

Максім вельмі хацеў даведацца, як ён трапіў у іншае месца. Здавалася, што памяць вярнулася яму на ганку хаты і ён спакойна лёг спаць. Зараз, аднак, прачнуўся і пачуў неспадзяваны пах паленых дроў. І зноў стукатанне, цяпер гучнае і выразнае. Устаў раптоўна і зноў жаласна схапіўся за галаву. Яна была надалей цяжкаватая і алкаголь напэўна кружыў у арганізме. Вось і маеш вынікі выпівання! Не выцверазеў. Зачапіўся аб крэсла. Дзіўная рэч, у яго пакоі не было ніякіх крэсел! Заспанымі вачыма азірнуўся навокал і не мог зразумець, што за сон. Шэрань пакрывала шыбу невялікага акна, так што не бачыў, хто стаіць за акном. Прыадчыніў акно, і холад уварваўся ў пакой.

— Цябе маглі б падпаліць! — наракала незнаёмая дзяўчына. Ахутаная акуратнай хустай, апранутая зусім нямодна, быццам з іншай эпохі, дзеўка выглядала вельмі асаблівà. Ну а што ён? Паглядзеў на свае штаны. Не джынсы, у якіх баляваў, а цёмныя штаны ў абцяжку. Адкуль іх узяў і каму ўдалося іх нацягнуць на яго? Даў сабе ўдосталь! Значыць, алкаголь не для яго. Праўду казала маці, што такія рэчы — для мудрай галавы.

— Ты папіў, Максім! Я чую! — расхвалявалася дзяўчына.

— Так, але я не ведаю, адкуль ты ведаеш аб гэтым. І дзе я апынуўся?

— Трымайце, нябёсы! Бачыла, як бацька даставаў бутэльку.

— Чый бацька?

— Мы ж гаварылі, трэба ранкам дабрацца ў Белавеж. Потым усе даведаюцца.

Максім здурэў. Фатальна здарылася, што раней не адмаўляўся, а так — напіўся і маеш, прыйшоў у чужую хату, пазнаёміўся з бацькам гэтай дзяўчыны і яшчэ выпіваў з ім! От, ліха!

— Чакай, дзяўчынка, — абапёр рукі на падаконнік. — Ты ведаеш, як мяне завуць і выглядае, што шмат іншых рэчаў, але я бачу цябе першы раз. І не прыпамінаю сабе, як я сюды ўвогуле трапіў. Мы знаёмыя ад вечара, а ты хочаш, каб я з табою ехаў у Белавеж. І што там?..

Дзяўчына адчыніла шырока вочы і паклала рукі на клубы. Напэўна, не спадабалася ёй тое, што ён сказаў.

— Ты, мяне, хлопец, — слова „хлопец" вымавіла асабліва, — выведзеш з сябе. Хутчэй, коней я ўвязала пры дарозе, а калі будзеш марудзіць, паеду адна, а табе крэсцік.

Дзяўчына кранулася з месца і адышла некалькі крокаў. Максім выхіліўся за акно. Сукня дзяўчыны была незвычайная, і ўсё тут было сенсацыйным. І чамусь прыйшло яму ў галаву, што трэба ісці за светлавалосай. Прынамсі пабачыць ён, дзе апынуўся, гэта вельмі цікава. А цяпер загадку трэба развязаць. Ну і дахаты дабрацца. Выскачыў з акна і зрабіў некалькі крокаў, азірнуўшыся на будынак у якім спаў. Драўляны, надзіва падобны на прыдворскія флігелі. А навокал лес, яго пушча. Белавежская пушча, калі яны выбіраюцца ў Белавеж. Чакаць. Чакаць... Што яна сказала? Коні? Свет перакуліўся дагары нагамі. Нашто каму звяры, калі конская сіла ў машыне? Аднак людзі бываюць усялякія...

Максім дагнаў дзяўчыну, якая, убачыўшы яго побач сябе, усміхнулася ўлагоджана.

— Дурань! — сканстатавала. — Як стаяў, так упаў і заснуў.

Пакруціла галавой, а ён прыглядаўся да яе твару. Красуня.

— Увесь двор будзе насміхацца.

Хлопец глянуў на сваю адзежыну і даўся дзіву. Ну што за апранахі! І яна ў гэтай сукні...

— Слухай, — пачаў Максім. — Я ўчора напіўся. Святкаваў сваю магістэрку, але якасьці, якасьці... трапіў дахаты. А што я тут раблю?

— Максім, мо ты ўдарыўся? Учора мінуў год як ты з намі.

— З вамі? Гэта з кім?

— Доктара! — тэатральна крыкнула дзяўчына, прыклала сваю далонь да яго ілба і махнула галавой.

— Ты, Максіме, для мяне найдаражэйшы ў свеце, таму я прашу, не выпівай больш і зрабі з сабой парадак. Калі ты маеш даведацца, чаму вырэзваюць нашу Пушчу, ты павінен быць цвярозым і разумным. А ты цяпер — гультай!

— Добра, значыць, я праспаў цэлы год. Так разумею?

Дзяўчына гучна засмяялася.

Максім, падумаўшы глыбока, сцвердзіў, што ён надалей у сне.

Дайшлі да звяроў, прыгожых і дагледжаных, і Максім спалохаўся. Ён ніколі не прабаваў гэтага спорту. І ў што ён улез? Аднак, хаця баяўся, падсадзіў дзяўчыну на каня і... Здзівіўся, як лёгка закінуў ступак у стрэмя і ўскочыў на сядло. І цуда — Максім ведаў, як паводзіць сябе, каб конь добра ішоў!

Дзяўчына кінула на Максіма зусім панскім паглядам:

— А, я ведала, што табе гэта добра зробіць.

Максім з маналогу дзяўчыны дадумаўся, што маюць яго за кіруючага маёнткам, а двор, у якім служыць, завуць Лутоўня. Ага, значыцца, так: ён напіўся і заснуў, але гэта не кашмар. Тут адбылося нешта незвычайнае. Яго кінула ў іншую эпоху, ці што? А дзяўчына, значыцца, Аня, дачка гаспадара Лутоўні. Максім увасобіўся ў ролю чалавека, аб жыцці якога нічога не ведаў. Вось такая гісторыя! Прытым адбываецца штосьці цікавае і яны наважыліся зрабіць нейкае расследаванне. Як ён меў ад гэтага адмовіцца? Амаль ужо прывык да бліскучай весткі, што ён гэта не ён, а хтосьці зусім не Максімаў, хаця таксама гучаць іхнія імёны і прозвішча.

Максімава фантазія калісьці схілялася ў тыя старыя часы. Ён цікавіўся сваімі прашчурамі, але не памятаў, каб хтосьці з продкаў быў дворскім аканомам. Адзін быў лекар, другі — слуга ў двары, трэці — манах...

— Слухай, успомні, чаго мы так едзем.

Рашыў прыняць удзел у гэтай прыгодзе. І выкарыстаць час, запамятаць усё. Дашукаецца пасля, хто тут хто і для чаго. Хіба што не вернецца...

— Я катэгарычна пратэстую! Там палацавыя будаўнікі вырэзваюць нашу дуброву. Усю пушчу знішчаць!

— А мы нейкія хвасты, што надумалі ім у гэтым перашкодзіць?

Ён цяпер хацеў смяяцца. Зразумеў. Гэта канец дзевятнаццатага стагоддзя. Будуюць царскую паляўнічую рэзідэнцыю.

— Ну, Максім, — збянтэжылася і пачырванела дзяўчына, — хаця б пабачыць.

— Ты ведаеш, што за сто гадоў будуць эколагі, якія будуць абараняць пушчу ад такіх будаўнікоў. А палац будзе знішчаны.

Цяпер смяялася яна.

— З цябе някепскі жартаўнік, я ведаю. Такога ты яшчэ не выдумляў.

Прыехалі ў Белавеж. Яна была зусім інакшая, чым вядомая Максіму. На гарачцы ўзвышалася вялікая канструкцыя. Царскі палац.

Цуда! Максім разявіў рот.

— Бачыш, як гэта можна знішчыць? Трэба гневу гаспадняга для разбурэння гэтага.

— Не трэба, — сказаў засмучаны Максім. — Хопіць крыху людзей, у якіх няма парадку ў галаве. Або вайна...

— Сёння ты філасофствуеш...

— А сюды ўзлезці можна?..

— Я ўжо ўпэўнена, што ты сапраўды ўдарыўся ў галаву. Давай, да бабулі Зіны. Яна знойдзе на цябе сілу!

— Як гэта?

— Так як і на мяне, як я прыхварэла.

Павяла красуня Максіма да простай хаты, за якой валіўся плот. Пры самой сцяне сядзела маленькая, сухая жанчына. Пазнала дзяўчыну. Аня абняла старушку як родную бабулю і абцалавала ёй шчокі. На Максіма бабка паглядзела насцярожана.

— І бачыш, што тут робіцца? — спыталася ў яго.

— Цар строит себе чудо, — сказаў Максім.

— І што будзе з намі? Пойдзем усе, рабы, рабіць. Работаць, работаць, і ўсю жызнь пасвяшчаць.

— Гэта ненадоўга, — сказаў бабулі Максім.

— Анулька, ты ідзі, нарві парэчкі. Заварыце кампоту.

Старуха ўзяла Максіма за руку і павяла да сваіх парогаў.

— Ты не павінен тут быці, — яна была строгая і сур'ёзная. — Бесы, цьфу, чарты, адыдзіце! — махнула рукою, а Максіма перанялі дрыжыкі...

— Яе зваліла з ног, а мне пачала балець галава, круціліся самалёты ў ілбе, нядобра зрабілася, — расказаў Ані Максім. — Я хацеў накрычаць на бабулю, а мне мову адняло! У галаве палац, дубы, коні, флігель двара ў Лутоўні...

— Максіме, з табою зноў бяда, — уздыхнула дзяўчына.

Адплюшчыў вочы і ўбачыў белую столь.

— Падумаеш, адукаваны чалавек! Але! „Прашчай розум, здраствуй дурната!" Андрэй, твой сын у цябе ўдаўся, я з ім не маю нічога супольнага! — лямантавала маці.

Максім меў ахвоту выпіць усю ваду свету.

— І пабач! Хадзі, пабач! — клікала маці Максімавага бацьку. Значыць, ён у сябе, а ўсё гэта быў сон! — Глянь, Андрэй, што ён на сябе надзеў! Скуль ён такое ўзяў?!. У тэатры, ці што? Нават не разбуўся!

Прыйшоў бацька і ледзь на яго глянуў. Відаць, сын выглядаў камедна! Але! Максім устаў і адчуў, як сэрца хутчэй працуе. На нагах меў высокія боты Максіма, аканома Лутоўні.

— Халера! — аблаяўся пад носам, бо маці клікала ўжо ўсю радню, каб пабачылі, як Максім адсвяткаваў сваю магістэрку.

Паўліна БЛЯЎСКАЯ



Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Андрэй Сцепанюк і Кася Сянкевіч на старонках „Дзеяслова"

Выйшаў з друку ў Мінску першы сёлетні нумар літаратурна-мастацкага часопіса „Дзеяслоў". Ён выдаецца адзін раз у два месяцы. Свет пабачыў ужо 74-ы нумар.

На старонках часопіса надрукаваны двое паэтаў з Беласточчыны — Андрэй Сцепанюк і маладая паэтэса Кася Сянкевіч. Андрэй Сцепанюк друкаваўся ў „Ніве", „Белавежы", „Тэрмапілах". Ён нарадзіўся ў Бельску-Падляшскім, дзе працуе дырэктарам Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча. На суд чытачоў „Дзеяслова" ён вынес добрую падборку вершаў з агульным загалоўкам „Бельскае маўчанне".

Пачынаецца падборка вершам „Вечны сон". Ён прысвечаны памяці Юрыя Гуменюка — выдатнага гарадзенскага паэта і журналіста, якога не стала 19 студзеня 2013 года. Андрэй Сцепанюк піша, што:

Не плачу
Вершы гэта толькі словы...

Пад загалоўкам „Вечны сон" сумны эпіграф: не стала Юрыя Гуменюка. А ў канцы верша дата напісання яго: 20 студзеня 2012. Юра яшчэ быў жывы, бо не стане паэта толькі праз год. Ці рэдакцыя памылілася, ці Андрэй Сцепанюк наблытаў. Але, неяк не па сабе ад такой прыкрай памылкі.

Вершы „Малітва злодзея", „Героі", „Я іду да цябе", „Бельскае маўчанне" — гэта вершы-роздумы. Яны спакойна-разважлівыя, мяккія па танальнасці, аднак у іх прысутнічаюць метафарычная раскаванасць, філасофскія вобразы і пошукі ў галіне рытмікі, вершаванай кампазіцыі. Пра гэта, у прыватнасці сведчыць яго даволі актыўны зварот да верлібра, у якім пафіласофстваваць можна значна больш і ярчэй, чым у вершы з рыфмай. Паэт смела заяўляе, што з „кахання пачынаецца Слова невыразнае і маўклівае, нясмелае і няспелае...". І паэт разважае моцна, глыбока і цікава. Разважае і пра малітву злодзея, які кажа, што ў ім „жыве патрэба неакрэсленага блукання". І пра герояў, якія ніколі нікому не скажуць пра „хвалу дзядоў", таму што ў „думках і ў сэрцы слоў ужо няма і ніхто тут нам не скажа ў чым наша віна".

У дзеяслоўскіх вершах Андрэя Сцепанюка побач з тонкім лірызмам ягоных радкоў, шчырасцю пачуццяў, адчуваецца глыбокі роздум над праблемамі сучаснасці, сталая філасофская развага. У паэта гармонія не толькі правяраецца „алгебрай", але нярэдка і вырастае з яе.

„Бельскае маўчанне" — верш з глыбінёй пранікнення ў жыццёвую плынь, з поглядам на сучаснае жыццё і мінулае. Чатыры словы:

Бельск
Вакзал
Дарога
Чакаю...

З іх і пачынаецца верш-роздум. Дарэчы, мне вельмі спадабалася назва верша „Бельскае маўчанне". Ён можа быць і назвай зборніка, калі Андрэй Сцепанюк надумае яго выдаць. А выдаваць кнігу паэзіі яму даўно пара і варта.

А вось маладая беластоцкая паэтка Кася Сянкевіч ужо мае два зборнікі вершаў — „Дачка ружы" і „Гарбата з незабудак". Другі з'явіўся нядаўна ў Мінску. У „Дзеяслове" паэт і літаратуразнавец Леанід Галубовіч надрукаваў рэцэнзію на зборнік „Гарбата з незабудак". Праўда, лічыць крытык, ён ніколі не піў гарбаты з незабудак. І, калі па шчырасці, піша Галубовіч, то піць гарбату з незабудак не тое што немагчыма, але, па ўсім, небяспечна з пункту гледжання нашага фізічнага здароўя. Такую гарбату можна замаўляць толькі ў замроеным стане, для душы, як кажуць, у яе лірычна-вобразным увасабленні. Нездарма паэтка як бы папярэджвае і сябе, і нас адначасна, нагадваючы ў адным са сваіх вершаў:

Не ведаю пра што я павінна была забыцца ўчора
П'ючы гарбату з незабудак.

Рэцэнзію на зборнік Касі Сянкевіч Леанід Галубовіч назваў „Сцерагчы цемру". І адразу адзначае, што паэтка піша свае вершы ў „заходне-еўрапейскім фармаце". Магчыма крытык і шкадуе, што ў апошні час адпала патрэба ў высілках захавання метрыкі верша, яго рыфмоўкі і непарушнасці пэўнай формы. Гэткі спосаб вершаскладання, лічыць крытык, з'яўляецца нейкім чынам пераходным мастком ад прозы да паэзіі і наадварот. Падобныя творы больш спрошчаныя, не так маляўнічыя і менш эмацыйныя, чым класічныя вершы.

Кася Сянкевіч вельмі шматпланавая паэтка, са сваім паэтычным космасам. Яна пастаралася паказаць нам не віднае і відавочнае, а тое, што зацэнена і не відно, хоча правесці чытачоў не праз святло, а праз паўзмрочнае сутонне сваіх вычуванняў і рэфлексій, бо жадае быць не заўважанай, але заўважнай — прыкметнай, як дымны цень месячнай ноччу.

Крытык Леанід Галубовіч адзначыў, што вершы Касі Сянкевіч не разлічаны на шырокага чытача. Праз іх паэтка ўжываецца ў свет, сталее і набіраецца вопыту. Паэзія яе застаецца вельмі нераспазнанай, а больш прыцягальнай. Нават згадку пра каханага прапускае паэтка праз сябе, як праз чысцец:

Я купіла табе луг,
Ды забылася
Падарыць яшчэ дождж.
Ты не мог дараваць мне букетаў —
Прынесіў сасновае голле...

У свежым нумары „Дзеяслова" публікуецца яшчэ і Сяргей Кавалёў, які жыве ў Любліне. Ён разважае пра кнігу Ігара Запрудскага „Метафізіка беларускай крытыкі", якая выйшла два гады таму ў Мінску невялікім накладам. Крытык адзначае, што гэты зборнік не мае аналагаў у беларускай крытыцы.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## http://orsha.eu

Ёсць на ўсходзе Беларусі горад, які сваёй гісторыяй вядомы далёка за яе межамі. У яго мінулым шмат выдатных старонак, але дзве падзеі, што адбыліся ў ім, сталі сімваламі сапраўднай беларушчыны ў найшырэйшым сэнсе гэтага паняцця. Першая, бліжэйшая да нас, была 26 лістапада 1930 года, калі нарадзіўся паэт і пісьменнік Уладзімір Караткевіч. Ён настолькі ўзбагаціў нашу літаратуру, што многія людзі за мяжой, толькі дзякуючы ягоным „Чорным замку Альшанскім" і „Дзікім паляванні караля Стаха", даведаліся аб беларускай краіне.

Другая падзея — бітва, што мела месца пад тым горадам значна раней, у 1514 годзе, апошнім годам стала сімвалам не толькі барацьбы калыскі беларускай нацыі — Вялікага Княства Літоўскага з маскоўскай навалай, але і агульным сімвалам супраціву агрэсіі з Усходу для бліжэйшых з Расіяй яе заходніх суседзяў. Нездарма леташнія святкаванні 500-годдзя гэтай бітвы прайшлі на Украіне, у Літве і Польшчы. Беларусь з-за прарасійскай палітыкі сённяшняй улады не мела да тых святкаванняў асаблівых дачыненняў, але і там, праўда, выпусцілі летась памятную манету, прысвечаную князю Канстанціну Астрожскаму, які і разбіў тады на ўсходзе Беларусі маскоўскае войска.

Горад той, які стаіць на берагах Дняпра, называецца Оршай і знаходзіцца на 11 месцы найбольш населеных гарадоў Беларусі. Аб гэтым, між іншым, ходзіць на сайце „Аршанскі рэгіянальны партал", што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://orsha.eu**.

Калі цікаўны карыстальнік зазірне на даны сайт, то перад яго вачыма адкрыецца даволі стракатае выяўленне, якое вянчае сіняя палоска з гербам Оршы ў абрамленні еўрасаюзных зорак. Гэты малюнак разам з еўрапейскім даменным імем сайта адразу паказвае нам, што ягоныя ўладальнікі не належаць да чагосьці беларускага афіцыйнага, а пазіцыянуюць сябе як незалежную рэдакцыю.

Над верхам эмблемы сайта месціцца выйсці на дзве моўныя версіі. Варта адзначыць, што ад пачатку, набраўшы адрас сайта, карыстальнік трапляе на рускую версію, але і беларуская не ёсць горшай, бо практычна ўсе артыкулы апублікаваны на дзвюх мовах.

Усе выйсці на старонкі сайта месціцца выключна ў самым версе выяўлення. Сярод іх „Орша", „Аршанскі рэгіён", „Беларусь", „Пра горад", „Расклад транспарту", „Афіша", „Блогі" і „Фотагалерэя". Усё новае, што з'яўляецца на сайце, адразу адлюстроўваецца на стужцы навін, якая там называецца „Лентай апошніх навінаў".

Варта адзначыць, што сайт трымаецца лініі асвятлення падзей, у першую чаргу, рэгіянальных. Праўда, гэтаму асвятленню не хапае мультымедыйнасці — у большасці паведамленняў толькі тэкставая інфармацыя і фотаздымкі, а гэтага ў наш час буйнога развіцця інфармацыйных тэхналогій ужо замала.

Разам з тым „Аршанскі рэгіянальны партал" вельмі змястоўна падае даведкавыя звесткі пра сучасную Оршу. Так, у рубрыцы „Пра горад" месціцца падрубрыкі „Гісторыя", „Асобы", „Геаграфія", „Прамысловасць" і іншыя, якія даюць нам аснoўнае ўяўленне пра гэты горад над Дняпром. Цікава, што ёсць там і падрубрыка „Палітычныя партыі", дзе, праўда, змешчана інфармацыя толькі пра апазіцыйныя палітычныя арганізацыі, што дзейнічаюць у Оршы.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара

Прыхільнік беларускай аўтакефальнай царквы

# 125 гадоў з дня нараджэння Аляксандра САВІЧА

Беларускі і расійскі гісторык, малавядомы шырокаму колу Аляксандр Савіч нарадзіўся 13 сакавіка 1890 г. у вёсцы Лапеніца Ваўкавыскага павета (сёння Малая Лапеніца Ваўкавыскага раёна). Праўда, некаторыя расійскія крыніцы ўказваюць месцам яго нараджэння нейкую мясцовасць Перавалока Гарадзенскай губерні. Паводле трэцяй версіі Аляксандр Савіч нарадзіўся ў Ваўкавыскім павеце, але на тэрыторыі сучаснага Падляшскага ваяводства.

Будучы навуковец у 1914 г. скончыў Пецярбургскую праваслаўную акадэмію, а ў 1917 г. — гісторыка-філалагічны факультэт Маскоўскага ўніверсітэта. У 1917-1920 гг. працаваў у Саратаўскім універсітэце, дзе пад кіраўніцтвам вядомых вучоных Мацвея Любаўскага і Васіля Верацэннікава рабіў свае першыя сур'ёзныя даследаванні, напісаў магістарскую дысертацыю „Заходнерускія школы ў XVI-XVIII стагоддзях".

Наступныя тры гады Аляксандр Савіч працаваў ужо на радзіме ў Мінску, быў дацэнтам кафедры рускай гісторыі Беларускага ўніверсітэта. Быў сябрам Архіўнай камісіі пры Наркамасвеце БССР.

У чэрвені 1922 г. Аляксандр Савіч разам з патрыятычна настроенымі праваслаўнымі святарамі і прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі падпісаў адозву да праваслаўных беларусаў БССР з заклікам стварэння аўтакефальнай праваслаўнай царквы Беларусі. У 1923 г. Савіч быў звінавачаны ў антысавецкай дзейнасці. Арыштаваны і высланы ў Перм. Закінуты туды ў 1924 г., стаў дацэнтам, а праз два гады атрымаў пасаду прафесара. Чытаў лекцыйныя курсы па гісторыі Расіі, першы распрацаваў самастойны курс па гісторыі Урала. Больш таго, ён фактычна стварыў навуковую школу пермскіх гісторыкаў-уралазнаўцаў, пачаў даследаванне гісторыі каланізацыі Пермскага краю, народных рухаў на яго тэрыторыі і гаспадарчага асваення Прыкам'я. Праца Аляксандра Савіча „Мінулае Урала", якая была надрукавана ў 1925 г. — стала першым гістарычным даследаваннем, якое абагуліла вялізны перыяд часу ад засялення Урала чалавекам да канца XIX стагоддзя. Савіч таксама аналізаваў падзеі пугачоўскага паўстання на Урале і Прыкам'і, вывучаў гісторыю манастырскай каланізацыі і манастырскай гаспадаркі на Урале і іншае. У Пярмі быў звольнены за „немарксісцкія" пазіцыі, пераведзены на працу ў Яраслаўль.

Важкі ўнёсак зрабіў Савіч і ў беларускую гістарыяграфію. Пры напісанні доктарскай дысертацыі „Дачыненні Масковіі з Рэччу Паспалітай у час Смуты 1600-1619 гг." выявіў у Петраградскай дзяржаўнай бібліятэцы перапіску Жыгімонта III Вазы з канцлерам ВКЛ Львом Сапегам матэрыялы, якія датычаць перамоў Маскоўскай дзяржавы з Рэччу Паспалітай наконт прыналежнасці Смаленска. Асэнсоўваючы гісторыю Беларусі, Савіч спакваля адыходзіў ад ранейшых пазіцый заходнерусізму, схіляўся да нацыянальнай канцэпцыі бачання гістарычнага працэсу.

У 1944 г. Савіч вярнуўся ў Мінск. Да 1947 г. выкладаў у БДУ. Апошняе месца яго працы — Маскоўскі дзяржаўны педагагічны інстытут. Памёр Аляксандр Савіч 21 кастрычніка 1957 г.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Адзначылі Дзень жанчын

7 сакавіка ў Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе адбылося цыклічнае мерапрыемства, прысвечанае Міжнароднаму дню жанчын. Арганізатарам святочнай сустрэчы быў Гмінны асяродак культуры, а суарганізатарам — Раённае аддзяленне Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў. Імпрэза пачалася ў 13 гадзін з выступу дзетак з прадшколля. У літаратурным мантажы апынуліся вершы і песенькі прысвечаныя жанчынам. Даволі багатую мастацкую частку запрезентавала маладзёжная група духавога аркестра пад кіраўніцтвам капельмайстара Мікалая Гарадкевіча. Канцэрт доўжыўся паўгадзіны. У рэпертуары апынуліся розныя творы, у тым ліку папулярныя песні „Каралінка”, „Гэй, соколы”, „У пшанснічкі” ды „Рушнык”. Пасля мастацкай часткі ўдзельнікі сустрэчы пакарысталіся пачастункам (напіткі, пячэнне, фрукты і салодкасці), які падрыхтавалі арганізатары. Тамара Кердалевіч, якая выконвала абавязкі гаспадара мерапрыемства, павіншавала жанчын з нагоды іхняга свята, затым віншаванні пераказалі старшыня Саюза пенсіянераў і інвалідаў Мікалай Янчук і войт Міхал Врублеўскі. Гэтыя апошнія да пажаданняў далучылі букеты кветак, якія прысвяцілі прысутным жанчынам, а ўручылі членам праўлення ПСПіІ Галіне Андрасюк і Тарэзе Закшэўскай. Сустрэча праходзіла ў сяброўскай атмасферы, але без танцаў, па прычыне Вялікага посту.





Цікавае мерапрыемства заініцыявала ў нядзелю 8 сакавіка Таварыства анімараў лакальнай ініцыятывы „Амега”, якое арганізавала IV Пешы паход па акраінах Чаромхі. Маршрут пачаўся ў 11 гадзін з-пад Гміннага асяродка культуры, праз чыгуначную станцыю, Кузаву над Рэпчыцкі вадаём, затым назад праз урочышча Гарэлі (лесам), вёску Чаромху (побач аўтазаправачнай станцыі). Завяршыўся паход на вуліцы Сасновай, побач доміка паляўнічых. Там удзельнікаў паходу чакалі вогнішча і гарачы пачастунак. У паходзе ўдзельнічала сем членаў „Амегі” і група з васьмі чалавек з Гайнаўкі, з якой супрацоўнічае Таварыства. Пешаходы адолелі 6-кіламетровы адрэзак за няпоўныя дзве гадзіны. Калі ўдзельнікі паходу ласаваліся гарачым пачастункам на свежым паветры пад паляўнічым дашком, я паразмаўляў са старшынёй Таварыства Уршуляй Савіцкай, якая сказала:

— Таварыства наша налічвае сем членаў. Арганізаваліся мы ў 2011 годзе. Перш-наперш наладзілі пешы рэйд жанчын па акраінах Чаромхі. Затым на зломе мая і чэрвеня сарганізавалі веласіпедную гонку ў Дабрываду, а пад канец ліпеня — веласіпедную гонку ў Мельнік. У мінулым годзе ў лютым, арганізавалі катанне на санках у Лазіцах. У сакавіку, з нагоды Дня жанчын — III пешы рэйд па акраінах Чаромхі. Апрача таго ладзілі імпрэзу з нагоды Дня дзіцяці. У чэрвені ўдзельнічалі ў спартыўнай скандынаўскай хадзьбе з палкамі ў Плятэраве. Летам удзельнічалі ў байдарачным паходзе па рэчцы Нараўцы з Нараўкі ў Старое Ляўкова. Восенню арганізавалі веласіпедную гонку ў Дубічы-Царкоўныя. Нашы кабеткі даволі ініцыятыўныя, — завяршае старшыня Савіцкая. — У іх шмат грамадскіх ініцыятыў. Дзейнічаем, затым даказваем, што ў малым калектыве таксама можна нешта зрабіць. Адклікаемся да ўсіх ахвотных, хто хоча ўдзельнічаць у нашых мерапрыемствах. Не абмяжоўваем узросту.

— А планы на бліжэйшую будучыню?

— Многа залежыць ад надвор'я. Лічым на чарговыя роваравыя гонкі па турыстычных шляхах. Будзем працягваць арганізаванне цыклічных мерапрыемстваў з нагоды дзяржаўных гадавін, Дня дзіцяці, а восенню мяркуем арганізаваць супольнае збіранне грыбоў. Прыбытак ад прададзеных грыбоў прызначым на харытатыўныя мэты.

Жадаем затым Таварыству цудоўнага летняга надвор'я і самых поспехаў у рэалізацыі каштоўных грамадскіх ініцыятыў.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Прыемнае з карысным

Аб ініцыятыўнасці і вынаходлівасці чыгуначнага пенсіянера з Чаромхі Здзіслава Закшэўскага „Ніва” пісала ў мінулым годзе („Ініцыятыўны пенсіянер” — № 29 ад 20.07.2014 г.). Мой прыяцель апавядаў тады аб пачатках свайго майстэрства па вытворчасці драўлянага посуду. Пачаткі ягонага рамяства зводзіліся да вырабу дэкаратыўных драўляных бочачак (дасканалая рэч на дамашняе віно). У час нашых раней-



Фота Здзіслава Закшэўскага

шых сустрэч сябра не намякаў аб тым, чым будзе займацца ў доўгія асеннія і зімовыя вечары. У снежні я занямог і не меў магчымасці наведаць калегу. Зараз атрымаў я ад яго па скайпе здымак ягоных „цудэнькаў”, якія прапаную паказаць чытачам.

— Гэта маё хобі, — з усмешкай прызнаўся Здзісек. — Прыемна праводжу час пры рукадзельным майстэрстве, пры тым маю задавальненне, што мае рэчы падабаюцца людзям.

Вось такі мой калега. Спадзяюся, што неўзабаве выявіць ён свае творчыя планы. Жадаем поспехаў!

**(ус)**

# 15.03 — 21.03

**(22.03. — 20.04.)** Уводзь новыя навыкі. З 20.03 зрэалізуеш свае мары і дасягнеш намечаныя мэты. Але 20.03. зацьменне Сонца вельмі цябе пабудзіць. Ды можаш запаліцца да рэалізацыі заданняў, якія акажуцца толькі стратай часу. Азірніся — маеш шанц на новае, вельмі каштоўнае сяброўства.

**(21.04. — 21.05.)** Мілавіднасць, прылюднасць і гармонія. Ачаруеш асобы, на якіх табе залежыць. Пакарыстаецца гэтым не толькі тваё пачуццёвае жыццё, але і прафесійнае. Пасля 17.03. папрвяцца здароўе і настрой, будзеш жвавы і вясёлы. Але не дагаджай сабе лішне, асабліва не аб'ядайся. І не раскідвайся грашыма, бо гэта можа кепска канчыцца!

**(22.05. — 22.06.)** 16-20.03. выдатная інтуіцыя ў таварыскіх справах. Але 19-20.03. не давер камусьці, хто мае да тваёй асобы нешляхетныя планы. Не засяроджвайся на сваіх недасканаласцях і нямогласцях. 14-18.03. старайся нікуды не ездзіць, каб не падвяргнуцца стратам. З 20.03., дзякуючы засяроджанню і стратэгіі, дасі рады з усім.

**(23.06. — 23.07.)** 14-18.03. выдаткі прынясуць табе немалыя праблемы. Будзеш злосны, трывожны і знерваваны. Дома большая адказнасць. Нават калі новая асоба ў тваім асяроддзі будзе здавацца вельмі цікавай, прыглядвайся ёй больш крытычна. У дні зацьмення Сонца (18-22.03.) пільнуй кашалька і звяртай увагу на тое што купляеш. Лёгка могуць цябе падмануць круцялі і абакрасці.

**(24.07. — 23.08.)** Добры час на роздумы і ўспаміны. 14-18.03. не абмінуць цябе нялёгкія размовы. Нейкія старыя непаразуменні выйдуць на святло і могуць давесці да спрэчкі, а нават скандалу. Падыдзі да спраў мэтазгодна. На працы пасля 17.03. будзеш мець поспех у негацыяцыях. 19-21.03. з нічым не спяшайся, бо перад мэтай можаш памыліцца.

**(24.08. — 23.09.)** 14-18.03 часовыя праблемы могуць давесці да таго, што адмовішся ад праектаў, якія былі для цябе важнымі. Будзеш лішне крытычным, не вельмі добрым у дыскусіі. З 20.03. (да 24.03.) будзеш у змозе зрабіць вялікі зрыў, можаш пазнаёміцца з кімсьці, хто будзе мець у тваім жыцці вялікую ролю. 15-19.03. хтосьці будзе цябе спакушаць хуткім прыбыткам, але не інвестуй у гэта, бо чакае поўная параза, лепш адкладзі грошы на потым.

**(24.09. — 23.10.)** Гармонія ў пары, многа рамантычных хвілін. Пара і ў хатнім жыцці пераламаць схемы і пачаць новы раздзел жыцця. Абавязкова задбай аб адпачынак, слухай музыку. 18-22.03. можа быць прыкрая атмасфера на працы і ў міжасобасных адносінах. Тым больш рэлаксуйся.

**(24.10. — 22.11.)** 15-19.03. снуючы ўласныя ўявы і праекты не замкніся на цікавых вырашэнні. Цяпер будзеш гвалтоўны і імпульсіўны, пастарайся закілзаць свае эмоцыі. 14-16.03. схадзі да касметолага і дантыста. Могуць ускладніцца твае некаторыя фінансавыя мерапрыемствы, выйдуць справы, якія хтосьці перад табою стараўся схаваць, даведаешся пра закулісныя дзеянні ў фірме (цвёрда негацыюй, бо маеш козыр у рукаве!). Твая сітуацыя ў фірме таксама можа ўскладніцца, іграй на час. Хтосьці хоча ўманеўрыраваць цябе ў штосьці несумленнае! З 20.03. (да 24.03.) будзеш умець хутка і паспяхова развязваць складаныя праблемы.

**(23.11. — 22.12.)** Не стрэсуйся, бо можа гэта адбіцца на тваім здароўі і псіхіцы. У кампаніі чакае цябе многа прыемнасцей. Больш выходзь на прыроду. Старайся так сарганізаваць сваё жыццё, каб не думаць пра турботы, на якія і так не маеш уплыву. Не выдавай грошай на непатрэбшчыну.

**(23.12. — 20.01.)** Не вельмі добра будзеш ацэньваць сітуацыю, з-за чаго можаш даць згоду на тое, ад чаго лепш табе трымацца далёка. 19-21.03. можа чакаць цябе расчараванне ў фірмовых справах. 17.03. пара на спакойную размову і пазбіцца непаразуменняў. Можаш пазнаёміцца з кімсьці, хто стане табе найлепшым сябрам. Хаця 15-19.03. поўнасцю аддай сябе працы. Не бяры ніякіх пазык!

**(21.01. — 19.02.)** Аддай больш часу сваёй хаце і хатнім. 15-19.03. зоркі пакрыжуюць твае справы, што можа найбольш адбіцца на тваіх блізкіх. Пастарайся падысці да ўсяго з адлегласці. Зважай на канкурэнцыю — хтосьці хоча падабраць табе задачы ці кліентаў.

**(20.02. — 21.03.)** Займіся сваім здароўем, дыетай, асабліва 20.03. Нічога не скрывай. Будзь вельмі асцярожным, не дай сябе звесці да пазіцыі таго, хто танцуе як яму заіграюць. Будзеш шустрэйшы і талкавейшы, шмат што здолееш аформіць. Рыбы народжаныя 24-28.02. знойдуцца ў часе размовай пераменны і іначай глянуць на адносіны з людзьмі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. мужчынская аздоба на носам (у адзіночным ліку) = 2 _ 6 _ 1 _;
2. сумесь памёту і подсцілу для ўгнаення глебы = 26 _ 14 _ 3 _ 4 _;
3. насельнік, жылец = 19 _ 20 _ 21 _ 8 _ 9 _;
4. старадаўняя халодная зброя рыцараў = 11 _ 15 _ 13 _;
5. правы прыток Нарвы = 22 _ 23 _ 10 _ 12 _;
6. невялікі паток = 24 _ 18 _ 17 _ 25 _ 16 _;
7. месца, дзе можна схавацца = 5 _ 7 _ 27 _ 28 _.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| | | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 8 нумара**

Казка, Жлобін, кіно, Шэкспір, смалакур, яр, сумненне, мякіш.

Рашэнне: **З кішэні каня не накорміш.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1300 egz.

# Ландшафт мяняецца

Пра Тафілаўцы „Ніва” пісала ў 1964 годзе: „Калі вы захапляецеся прыродай Гайнаўшчыны, абавязкова заедзьце ў вёску Тафілаўцы. Яна размешчана ў вельмі маляўнічай акаліцы. Зараз за клунямі, хаваючыся ў лазняку, бяжыць, спяшаецца рэчка Арлянка. Кругом лугі. Вясною яны засцілаюцца незвычайна прыгожым дываном кветак, па якім можна прайсці ў цянёк ляска Бабка. Апошняя ваенная завіруха, быццам баючыся парушыць прыроднае хараство, пашкадзіла Тафілаўцы. Вёска засталася цэлай. У ёй зараз каля 80 гаспадароў. За гады народнай улады ў вёсцы адбыліся прыкметныя змены. У хатах граюць радыёпрыёмнікі. Вясною 1961 года адкрыта новая крама. У краме ўсё можна купіць, ад іголкі да самай вялікай рэчы. Тафілаўцы ганарацца і сваёй пажарнай камандай. Члены каманды — людзі адданыя сваёй справе. Ёсць у вёсцы і моладзь. Вясёлая, жыццерадасная моладзь. Любіць паспяваць, патанцаваць. Асабліва прыгожа спяваюць нашыя дзяўчаты”.

Так было пяцьдзясят гадоў таму. Сёння некаторыя справы выглядаюць інакш. У халаднаваты сакавіцкі дзень вуліца выглядала апусцелай, а ў хаты не хацелася мне заходзіць каб не трывожыць іх жыхароў, магчыма, тых колішніх пявунняў, якія сёння, калі і засталіся ў вёсцы, не вельмі і выглядаюць герояў сваіх колішніх спеваў. Вось, ужо даходзячы да канца вёскі, мінуўся я з пажылой жанчынай, якая вярталася дахаты на веласіпедзе, кіруючыся да хаты, каля якой красаваўся кветнік на двух колах ад колішняга жалезняка. Я завярнуўся і скіраваўся за ёю перакінуцца пару словамі. Але, відаць, у чалавека, як і ў млекакормячых кажаноў, захаваліся нейкія рудыменты рэхалакацыі. І жанчына тая, неяк затрывожаная, не аглядаючыся ў мой бок, пачасала без аглядкі ў бяспечны прытулак сваёй хаты. Бо ці вядома, што за валацуга шляецца па вёсцы; ці то мала цяпер такіх, ад якіх чакаць толькі бяды?..

З Тафілаўцаў, з паўночнага канца вёскі, ёсць на карце пазначана дарога ў Стары Корнін, але мне туды было не па дарозе; задумаў я прайсціся ў бок Мора і Крывятыч, а туды дарога на папяровай карце не пазначана. Калісь можа, як гэта гаварылася ў народнай пагаворцы, не знаючы броду, не наважыўся б хадзіць па невядомых бездарожжах, але сёння можна на нашу, нават тутэйшую, зямельку, паглядзець з касмічных высот. Паглядзеў я ў камп'ютары магчымы шлях ад Тафілаўцаў у напрамку Мора і Крывятыч, нанёс эскіз намечанага маршрута на картачку і з гэтай картачкай адправіўся з Тафілаўцаў. Неўзабаве, аднак, аказалася, што мясцовасць выглядае інакш з зямлі, чым з космасу. Прыйшлося аператыўна мяняць маршрут, трымаючыся наяўнай палявой дарожкі.

Прагулка з Тафілаўцаў у Мора аказалася насалодай для душы. Дывана кветак акурат не было, але царыў гаючы спакой. Дарожка пралягла побач абробленых палёў, побач апрацаваных жывёлай паш, побач самасейных і пасаджаных участкаў лясоў. Неўзабаве паказаўся масток, па якім сціплая жвіроўка павяла мяне ў напрамку Мора. Побач жвіроўкі могілкі, дзе хаваюць сваіх пакойнікаў жыхары Мора, на могілках царкоўка. Партал Карнянскага прыхода: „Jak podają teksty źródłowe, w 1810 roku zostala wybudowana we wsi Morze kaplica cmentarna pod wezwaniem św. Tekli. Była to jedyna większa inwestycja parafii z pierwszej połowy XIX wieku. Przeniesiono tu niektóre elementy wyposażenia z cerkwi kornińskiej. W 1882 roku kaplicę przebudowano, a środki na ten cel przeznaczyli parafianie. W czerwcu 1941 roku cerkiew spłonęła. Podpalili ją radzieccy komuniści uciekający przed oddziałami niemieckimi. Kaplica na cmentarzu została odbudowana dopiero w 1952 roku i wyświęcona pod wezwaniem św. Proroka Eliasza. Obchodzone są tu dwa święta: 24 września/7 października — św. Tekli; 20 lipca/2 sierpnia — św. Proroka Eliasza. W tych dniach oświęcane są również groby zmarłych”.

Царква гэтая згадвалася таксама ў Геаграфічным слоўніку Каралеўства Польскага з канца XIX стагоддзя: „Morze, wś, pow. bielski gub. grodz., gm. Brzozowo Nowe, 13 wiorst od Bielska, 55 domów, 314 mieszkańców, cerkiew filialna, 595 dziesięcin włośc.”. А яшчэ раней, бо ў 1679 годзе кароль Ян III Сабескі пасяляе ў Моры, Старым Корніне і Махнатым бежанцаў ад Ноўгарада-Северскага, што на ўсходзе Чарнігаўшчыны, якія ўцяклі адтуль ад устаноўленых Масквою парадкаў пасля Андрусаўскага перамір'я; мелі яны тут









аставацца да моманту вяртання да пакінутыя імі землі польскага панавання...

Вёскі Мора і Крывятычы амаль прылягаюць да сябе. Вось на мяжы гэтых вёсак знаходзіцца школьны будынак. Выглядае так, быццам стаіць ён у Крывятычах, але ў сапраўднасці ён яшчэ ў вобрубе Мора; можна нават сказаць, што ён стаіць на „беразе” Мора. У 1961 годзе „Ніва” пісала: „На дзве вялікія вёскі існавала маленькая „яшчэ царская” школа з адной класнай залай. Праўда, для заняткаў нанялі яшчэ дзве вясковыя хаты, але ў іх цесна, вокны маленькія, а пад канец заняткаў робіцца зусім цёмна. (...) З'явілася ў Моры брыгада будаўнікоў і пачаліся работы. Моцна давялося папрацаваць і рабочым, і сялянам. Глеба вакол вёскі балоцістая, дарогі непраезныя. Здаралася, што машына з будаўнічым матэрыялам загразала ў балоце. Тады выязджалі сяляне з вазамі на гумавых колах і грамадскім чынам дапамагалі як маглі. Дагаварыліся паміж сабой: крывяцічане прывязуць жвір, а маране каменне. І вось 24 лістапада ўсе, хто ўклаў сваю цаглінку ў будову школы, сустрэліся на ўрачыстым яе адкрыцці. (...) Шкада толькі, што ў праекце новай школы не было прадугледжана стварэнне ўмоў для шырэйшага палітэхнічнага і фізічнага выхавання: няма месца на майстэрні, няма гімнастычнай залы і, можа нават, малавата лекцыйных залаў, бо толькі чатыры. А ў школе-васьмігодцы...”. І ў 1972 годзе: „Быў пабудаваны другі будынак на тры залы. (...) Школа ў Моры гэта сапраўдны цэнтр культурнага жыцця. У школе дэманструюца адзін раз у тыдзень кінафільмы для жыхароў вёскі, тут адбываюцца акадэміі з удзелам усіх мясцовых жыхароў, вясковыя сходы і іншыя мерапрыемствы”.

Так было сорак гадоў таму. Зараз карціна школьнага будынка крыху іншая. Дзіцячага гоману там не чуваць, але ўсё ж такі нерухомасць, у адрозненне ад многіх іншых нашых „тысячагодак”, дыхае. З коміна паднімаецца бачны здалёк светлы дымок, на сцяне былой школы вялікае табло з інфармацыяй пра вытворчасць мэблі, на асобным стэндзе аб'ява пра пошук сталяра... Іду далей, у Крывятычы. У адной з брам паказваецца мужчына, на від звыш шасцідзесяці. Пытаю яго пра той школьны будынак, што прытуліўся да ягонай вёскі. І даведваюся, што калі перастала там працаваць школа, у будынку адбываліся забавы на ўсю акаліцу — не было магчыма спаць па начах. Але і забавы выдыхаліся. А пасля тут была адкрыта вытворчасць кухоннай мэблі, нават мой суразмоўца абсталяваў сваю кухню вырабамі з гэтай фірмы. Уласнік прадпрыемства недзе ад Старыны, з Гурыноўшчыны...

Магчыма, што гэтае прадпрыемства зарадзіла новы дух у вёсцы. Вось насупраць майго суразмоўцы адмысловая лаўка на тратуары — кірую размову ў яе напрамку. Гэтая лаўка прыцягвае зацікаўленне праязджаючага цераз Крывятычы народу, людзі спыняюцца,



цікавяцца. Бо ў добрае надвор'е народ выходзіць пасядзець на лавачках, пагутарыць. А ўласнік тае лаўкі стаў вырабляць розныя прадметы з драўніны — скрынкі, кармушкі, кінуўшы абрабляць зямлю. Маладыя пакідаюць вёску. Мой суразмоўца прарочыць, што праз нейкі час Крывятычы зарастуць усялякай расліннасцю і нічога на месцы вёскі не астанецца. Я не пагаджаюся з ягоным песімізмам, але даведваюся, што палі побач Крывятыч узяў нейкі селянін з Малешаў, у якога ўжо шэсцьсот гектараў. На тым ягоным грунце, у былой цагельні, стаяць цяпер дзве мачты мабільнай тэлефоніі і за кожную з іх ён бярэ па тры тысячы ў месяц; лёгкі хлеб...

Людзі цяпер не надта горнуцца да зямлі, але калісь было інакш. Крывятыцкія сяляне ў царскі і санацыйны час мелі сервітут, г.зн. права карыстацца памешчыцкай уласнасцю — пасвіць дабытак і збіраць лясныя дары на некаторых панскіх грунтах, напрыклад у лесе. Шэсцьдзесят гадоў таму „Газета Беластоцкая” пісала: „Chłopi ze wsi Krywiatycze (pow. Bielsk Podlaski) posiadali prawo wypasu bydła na 156-hektarowym pastwisku, stanowiącym własność dziedzica Wikiejsztejna. Serwitut ten był niewygodny zarówno dla dziedzica, jak i chłopów, bo pastwisko leżało daleko od wsi i znajdowało się prawie w środku pańskiej ziemi. Dziedzic „dogadał się” z co bogatszymi chłopami z Krywiatycz i postanowiono zlikwidować serwitut. W zamian za serwitut wieś otrzymała na własność przylegającą do gruntów chłopskich ziemię po ściętym lesie. Początkowo z ziemi tej korzystali wszyscy chłopi z Krywiatycz jednakowo, niezależnie od tego, ile kto ziemi posiadał, korzystali z niej też chłopi bezrolni. Nie odpowiadało to jednak kułakom, postanowili więc podzielić ziemię poserwitutową proporcjonalnie do posiadanych gruntów. Oczywiście najwięcej ziemi tej dostali najbogatsi chłopi. A dziedzic Wikiejsztejn pomagał bogaczom swoimi wpływami w starostwie. Choć biedacy nie chcieli zgodzić się na taki podział, nic to im nie pomogło. Sprawa oparła się o sąd, który całkowicie stanął po stronie kułaków. Zresztą nie mogło być inaczej — przecież władza a więc i sądy znajdowały się w rękach bogaczy i stały na straży ich interesów. Najaktywniejszych chłopów spośród biedoty „wzięła na oko” granatowa policja. W 1935 r. policja przeprowadziła rewizję u Łukasza Roli, Sergiusza Drużby, Awakuma Sulimy i kilkudziesięciu innych małorolnych chłopów niby to szukając broni. Przy okazji niszczyli policjanci co się tylko dało z ubogiego dobytku domowego. Odtąd nie było tygodnia, by policja nie przeprowadzała rewizji, nie nakładała kar to „za brak” sprzętu przeciwpożarowego, za „brudy” na podwórku itd. Biedota nie dała się jednak złamać i kułacy do wybuchu drugiej wojny światowej nie zdołali całkowicie dla siebie zagarnąć ziemi poserwitutowej”. Так было васемдзесят гадоў таму...

Цяпер змяняецца не толькі грамадскі клімат, змяняецца таксама мясцовы ландшафт. Між Крывятычамі і Орляй сёлета маюць паднядца ветракі з электрагенератарамі. Яшчэ іх тут няма, але з другога боку Орлі яны ўжо махаюць крыламі. Ідзе новае, падмінаючы пад сябе аджытае.

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

ISSN 0546-1960